

Абрадавы агляд → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Успамін з Крушынян → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3108) Год LX | Беласток, 6 снежня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Трэцяя цырымонія ўручэння ўзнагарод у Агульнапольскім конкурсе для рэпартажыстаў „Гістарычная передача года 2015”, арганізаваным па ініцыятыве Беластоцкага аддзела Інстытута нацыянальнай памяці, супала сёлета са святкаваннем пятнаццацігоддзя гэтай установы. З ліку 75 заяўленых тэле- і радыёперадач да топ-намінантаў журы адабрала пятнаццаць. У адной з трох катэгорый — „Гісторыя рэгіёна” сярод намінантаў апынуўся рэпартаж «Я бачу іх» Валянціны Лаеўскай з Беларускага Радыё Рацыя. Нагадаем, прысвечаны ён злачынству, учыненаму 29 студзеня 1946 года на праваслаўным насельніцтве Залешан атрадам Рамуальда Райса „Бурага”. Выклікаў ён абурэнне некаторых правых публіцыстаў, а на самой справе атака была накіравана супраць самой аўтаркі. Тым часам усё паказвае на тое, што Валянціна Лаеўская і яе перадача сталі для Роберта Віта Вырастэвіча — падбухторшчыка нападаў, аўтара артыкулаў, публікаваных на партале «Prawy.pl» і ў газеце «Warszawska Gazeta», а пасля распаўсюджваных — падставай да гульняў, галоўным чынам, супраць ІНП. Рэпартаж Валянціны Лаеўскай не паяўляецца ў яе перадачы. Уся гэтая атака са шкодай для тэмы і конкурсу, які прасоўвае гісторыю на розных узроўнях.**

# Ахвяра атакі на ІНП

Урачыстасць узнагароджання сёлета адбылася ў Выставачна-канферэнцыйным цэнтры Беластоцкай архідыяцэзіі 26 лістапада, у дзень нараджэння прэзідэнта Польшчы ў выгнанні, беластачаніна Рышарда Качароўскага. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя сучаснай гісторыі Польшчы ў амбіцыйных формах журналістыкі. Яго ініцыятарам з'яўляецца Беластоцкі аддзел ІНП. Перадачы былі ацэнены журы з пяці членаў пад старшынствам Яніны Янкоўскай, журналісткі і радыёрэпарцёркі, дзяячкі дэмакратычнай апазіцыі ў час ПНР. Галоўны прыз — Гран-пры старшыні ІНП у катэгорыі «Падзеі» выйграў дакументальны фільм «Паўстанне і медыцына. Мы хацелі жыць» Марка Відарскага, зрэалізаваны Фільмавым фондам Арміі Краёвай. Фільм распавядае аб падрыхтоўцы і службе паўстанцкіх санітарных службаў на аснове аповедаў удзельнікаў падзей. У катэгорыі «Лёсы» прыз імя прэзідэнта Рышарда Качароўскага атрымаў дакумент «Крыстыны Куты 25 гадоў свабоды», якога аўтарам з'яўляецца Міраслаў Рагальскі. Фільм нагадвае гісторыю легендарнай дзяячкі апазіцыі з Торуні Крыстыны Куты, якая неаднаразова была ў зняволенні і інтэрнаваная за дзейнасць на карысць незалежнай Польшчы і працуе на працягу 25 гадоў прыбіральшчыцай. Узнагарода дырэктар аддзела ІНП у Беластоку ў катэгорыі «Рэгіянальная гісторыя» (у якой была заяўлена перадача Валянціны Лаеўскай), прызнаваная за працы па пытаннях, звязаных з тэрыторыяй дзейнасці беластоцкага ІНП, дасталася перадачы «Расстраляны гадзіннік» Агнешкі Чаркоўскай з Польскага Радыё Беласток. Гэта расказ пра пошук уладальніка загаловачнага залатога гадзінніка, знойдзенага ў адной з магільных ям пры беластоцкім следчым арышцы, дзе ІНП вёў пошук ахвяр камуністычнага тэрору. У конкурсе прысвоены таксама тры вылучэнні за асаблівыя пазнавальныя каштоўнасці, у тым ліку для дакументальнага фільма «Там дзе не квітнеюць яблыні» Яўгена Шпакоўскага з TVP Беласток пра лёс сібіракоў.

У час урачыстасці старшыня ІНП Лукаш Камінскі распавядаў пра аўтараў намінаваных перадач і пераможцаў:

— Выкарыстоўваючы ярлыкі, часам метафары, са спасылкай на лёс чалавека, умеюць апісаць вялікія падзеі, вялікія гістарычныя з'явы. Гэта вялікая каштоўнасць такой творчасці. Праца творцаў гістарычных перадач з'яўляецца велізарнай падтрымкай для вучэбнай дзейнасці ІНП. Часам умееце зварухнуць такія струны, якіх мы не патрапім, дабрацца да такіх эмоцый, якіх нам, асабліва гісторыкаў, што займаюцца навуковай дзейнасцю, не ўдаецца выклікаць у нашых працах. І, такім чынам, наша падзяка, якой сімвалам з'яўляюцца ўзнагароды.

Дырэктар Беластоцкага аддзела ІНП Барбара Баярын-Казбярук, раней шматгадовая радыёжурналістка, спасылаючыся на абвінавачванні супраць журналістаў Радыё Рацыя і яе перадачы, сказала «Ніве»:

— У конкурсе ацэньваюцца праграмы, а не іх стваральнікі. Я не магу пастаўіцца да абвінавачванняў, звязаных з самой радыёперадачай, таму што пад такім адрасам не былі яны сфармуляваны, а датычылі асобы. Я не думаю, што рэпартаж спадарыні Лаеўскай зрушыць гістарычныя даследаванні. На мой погляд, гэта, перш за ўсё, апісанне эмоцый таго аднаго дня. Героі рэпартажу маюць поўнае права выказваць іх. Калі б яны былі выкарыстаны ў даследчых мэтах, мусілі б быць падвергнуты так званай даследчай крытыцы, тобок, трэба было б сказаць вам, наколькі яны пачутыя, а ў якой ступені ўжо нейкія легенды, якія паўтараліся. Без сумневу, гэты рэпартаж дапамагае зразумець якраз эмоцыі. Інструменты гісторыка, аднак, у гэтым выпадку не могуць быць прыменены да эмоцый. Гэта тэма балючая заадно як для сем'яў загінуўшых, так і для сям'і Рамуальда Райса. Гэта канфлікт памяці, і ў гэтай справе чакае нас яшчэ шмат працы.





Валянціна Лаеўская





**У размове з «Нівай» Анджэй Завістоўскі, сябра журы з пяці членаў, а заадно дырэктар Бюро грамадскай адукацыі ІНП заявіў:**

**— Ва ўсёй гэтай гісторыі, звязанай з намінацыяй рэпартажу Валянціны Лаеўскай, не рэпартаж быў атакаваны. Напад быў персаналізаваны, накіраваны непасрэдна ў аўтарку, прытым за пытанні, якія не падлягалі ацэнцы перадач, заяўленых на конкурс. Сярод тых, хто атакаваў, ніхто не звярнуўся з лістом з просьбай аб каментарый, стаўленне, або тлумачэнне.**

**Уся атака пачалася на сайце «Prawy.pl», а затым у выданні «Warszawska Gazeta” Роберта Віта Вырастэвіча, злоўленага на тым, як выносіў акты Інстытута нацыянальнай памяці, якому па гэтай прычыне два гады таму пракуроры паставілі абвінавачанне. Нагадаў пра гэта «Ніве» вядомы правы аглядальнік Цэзары Гмыз.**

**— Віт Вырастэвіч мае судзімасць за крадзеж дакументаў з ІНП.**

**Хацеўшыя захаваць сваю ананімнасць працаўнікі ІНП сказалі адназначна, што перадача Валянціны Лаеўскай — цытую іх дакладна — „posłużyła, żeby po raz kolejny uderzyć w IPN i to jest taka zemsta na IPN Wita Wyrostkiewicza”. Анджэй Завістоўскі адзначае:**

**— Мне здаецца, што спадарыня Лаеўская была выкарыстана інструментальна тымі, хто хоча ўдарыць у ІНП. Ніхто ў гэтым нападзе не адносіцца да ядра, значыць, да перадачы. Атака накіравана асабіста на спадарыню Лаеўскую і ІНП. Сама перадача не была апісана. Але ў гэтых атаках апынулася, напрыклад, імя маёра „Лупашкі”, што спадарыня Лаеўская прыніжае гэты сімвал. Тым часам, гэтая постаць не паяўляецца ў яе перадачы. Уся гэтая атака са шкодай для тэмы і конкурсу, які прасоўвае гісторыю на розных узроўнях.**

Прысутны на цырымоніі ўзнагароджання ІНП старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў Тамаш Суліма, таксама руплівы назіральнік сацыяльных сетак у кантэксце забойстваў атрадаў „Бурага” на праваслаўным насельніцтве:

— Увесь „сыр-бор” узнік тыдзень пасля намінацыі рэпартажу Валі Лаеўскай пасля першай публікацыі Роберта Віта Вырастэвіча на сайце «Prawy.pl». Па прынцыпе «капіяваць-уставіць» была яна распаўсюджана ў іншых сродках масавай інфармацыі. Я думаю, што гэта маргінальнае. Цешымся, што сярод 75 заяўленых перадач перадача была заўважана, і таксама тэма, пра якую яна распавядае.

Валянціна Лаеўская ў кулуарах цырымоніі сказала:

— Той факт, што мой рэпартаж быў намінаваны, і як бы ні было, набыў вядомасць дзякуючы правым СМІ, што пашырае кола людзей, якія даведаюцца пра падзеі, пра якія расказваe, і можа яны падумаюць, што на самой справе адбылося. Мабыць, хтосьці сам схоча наведаць Залешаны і навакольныя вёскі, паслухаць людзей, падумаць што на самой справе там адбылося, тым больш, што 29 студзеня 2016 г. будзе круглая 70-я гадавіна трагічных падзей. Пакуль ніхто не схіліўся над болем жыхароў Залешан, Заняў, Шпакоў і іншых навакольных вёсак. Гэта цяжкія тэмы і я разумею людзей, якія абураюцца, якім гэта балюча, але трэба пераадолець іх. Мой рэпартаж з'яўляецца адным з тых крокаў, які павінен быў дапамагчы ў гэтым пераадольванні. Гэта новае адкрыванне гісторыі, у якой не ўсё адназначнае.

Партал „Prawy.pl” адмовіў Валянціне Лаеўскай апублікаваць тлумачэнні. Да выхаду гэтага нумара „Нівы” не было таксама ніякага адказу ані кіруючых парталам „Prawy.pl”, ані „Варшаўскай газетай” на лісты, у якіх падобныя патрабаванні вылучыла Радыё Рацыя адразу пасля публікацыі Роберта Віта Вырастэвіча (іх змест мы апублікавалі тыдзень таму).

У рамках трохдзённага святкавання 15-й гадавіны Інстытута нацыянальнай памяці, ва ўніверсітэце ў Беластоку адбылася між іншым дыскусія з нагоды прэзентацыі агульнапольскага даследчага праекта пад назвай „Апарат бяспекі ў адносінах да нацыянальных меншасцей” з удзелам прафесараў Яраслава Сырныка (ІНП Вроцлаў, які адказвае за праект), Алега Латышонка (Універсітэт у Беластоку), Кшыштафа Сыховіча (ІНП Беласток) і Войцеха Сляшынскага (УуБ). Была прадстаўлена таксама апошняя кніга Беластоцкага аддзела ІНП «Urząd Bezpieczeństwa w województwie białostockim 1944-1956. Z badań nad strukturą i działalnością aparatu represji», напісаная пад рэдакцыяй Марціна Маркевіча. Аб гэтых падзеях — праз тыдзень.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Турэцкі фарш

Яшчэ гадоў пятнаццаць таму, а можа і больш, адыёзны расейскі палітык і шоўмен у адной асобе, Уладзімір Жырыноўскі, у адзін з навагодніх вечароў старанна выводзіў старую песню „Не нужен нам берег турецкий, и Африка нам не нужна". Праўда, звычайныя расейскія грамадзяне насамрэч рабілі ўсё наадварот — Турцыя і краіны Магрыба якраз на поўначы Афрыкі былі ўсе гэтыя гады іх улюбёным месцам адпачынку. Ну а пра культуру расейскіх турыстаў усе ведаюць. Больш бедныя беларусы, яшчэ па савецкай завядзёнцы, зазвычай падаваліся на адпачынак у Крым, больш заможныя і рафінаваныя абіралі сабе мясціны па прынцыпе „там дзе няма ці мала рускіх". Ну а зараз усё перамянілася кардынальным чынам. Ні беларусы, ні ўкраінцы ў анексаваны Масквой Крым масава больш не ездзяць, а вось расейцы цяпер, пасля вядомых падзей, не паедуць у Егіпет ды Турцыю. Цяпер не да адпачынку нікому. І не толькі таму, што грошай няма. А найперш таму, што свет завіс на хісткай мяжы паміж адносным няўстойлівым мірам і маштабнай апакаліптычнай вайной. Той жа Жырыноўскі, які прыкідваецца клоўнам, а насамрэч доўгія гады з'яўляецца неафіцыйным рупарам і выказнікам памкненняў Крамля, ужо агучыў намер шарахнуць па Стамбуле ці Анкары ядзернай бомбай. Менавіта так гэтая адыёзная асоба казала перад другой расейска-чачэнскай вайной. Пасля гэтых істэрычных заклікаў няўрымслівага Вольфавіча, ядзернага стрэлу па Грозным не здарылася, але фактычна сталіца Ічкерыі разам з насельнікамі розных нацыянальнасцей, была сцертая з твару зямлі так званымі дывановымі бамбардзіроўкамі, зруйнаваная ўшчэнт.

Так што зараз не смешна нікому. Як кажуць, знайшла каса камень. І ўчарашнія саюзнікі і партнёры Расея і Турцыя ўмомант пераўтварыліся ў злейшых ворагаў. А стасункі паміж гэтымі дзяржавамі, яшчэ з часоў Асманскай і Расейскай імперый, надзвычай няпростыя. Адпаведна зараз адбываецца перафарматаванне і іншых дзяржаўных блокаў і хаўрусаў. Арменія становіцца яшчэ бліжэй да Расеі, чым Беларусь. Ужо факт, што Масква паскоранымі тэмпамі размяшчае на армянска-турэцкай мяжы свае сістэмы супрацьракетнай абароны. А гэта азначае эскалацыю больш-менш „замарожаных" азербайджанска-армянскіх дачыненняў. Які з Расеі выходзіць звычайна міратворац — вядома ўжо ўсім, хто мае хоць адну клёпку ў галаве. На гэтым фоне асабліва пікантна выглядае замілавальная сустрэча кіраўніка Беларусі ў Мінску з братам па духу — правадыром сонечнага Азербайджана. І гэта практычна ў час адмененай сустрэчы па дакладна невядомых прычынах Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным. А ёсць яшчэ і беларуска-катарскія цёплыя эканамічныя і прыбытковыя справы. А Катар разам з Саўдаўскай Аравіяй зараз будуць узмоцнена падтрымліваць якраз Турцыю, а значыць непазбежна ўваходзіць у канфрантацыю з Масквой.

У поўнай разгубленасці зараз і Еўрасаюз. Ён праз французскага прэзідэнта Франсуа Аланда ўжо гатовы быў пратрубіць „Турэцкі марш" і абвесціць агульную збройную кааліцыю супраць Ісламскай дзяржавы Ірака і Леванта. Кааліцыю супраць ІД у складзе НАТА, Расеі і шэрагу арабскіх дзяржаў гарачага рэгіёна. А тут такі канфлікт двух азіяцкіх альфа-самцоў, як іх называюць „цара" і „султана". Уладзімір Пуцін і Рэджэп Эрдаган сапраўды вельмі падобныя — аналагічны стыль кіравання, падобная ідэалагічная імперская спадчына. Так што заканамерна, што менавіта Турцыя, хоць і вельмі па-дурному, дала па зубах маскоўскім інтэрвентам, якія так часта парушаюць паветраную прастору чужых дзяржаў, што гэта ўжо і правакацыяй нельга называць. А трэба называць гэта адкрытым выклікам усяму свету. Толькі кіроўныя еўрапейскія палітыкі зараз пажынаюць горкія плады і наступствы нікчэмнай палітыкі „шыракаў-шродэраў", якую яны свядома ці па інерцыі працягвалі апошнія гады.

Так што замест „Турэцкага марша" атрымліваецца нейкі недарэчны „турэцкі фарш". І які рэцэпт выхаду з такога глыбокага крызісу — зараз ніхто не ведае.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Руская цвіль

Малы глобусік, выраблены ў Эстоніі для дзяцей некалькі тыдняў таму, выклікаў вялікі перапалох у расійскім логаве. Не хапіла ў ім контуру Расіі. Мабыць лінялы мядзведзь, Жырыноўскі так размахаўся рэваншысцкай гумкай, што з карты Еўропы оптам сцёр усе прыбалтыйскія краіны, а ў тым месцы, дзе Польшча, выдзер паскудную дзірку. Дзірка як дзірка, можна яе паціху заклеіць, і ўчынак Жырыноўскага разгледзець як палітычнае хуліганства, калі б не тое, што за яго ўчынкам стаяла прарочае ўказанне — такое, што дзіру пасля дэмакратычнай Польшча хутка заклеіць цвіль з аўтарытарна-дыктатарскай фактурай. Сапраўды такой жа, якая ад веку ўядаецца ў Расію і паступова заражае Еўропу. Вось, калі ласка, гэта адбылося. Толькі што гэта тэма на іншы фельетон.

Вяртаючыся да згаданага глобусіка, то так, побач жыва-вясёлай плямкі, якая прадстаўляе Эстонію, расселася вялікая плесневая кляска з надпісам Еўразія. Гэта праўда, што Еўразія з'яўляецца не ўсёй Расіяй у яе цяперашніх межах, але таксама праўда, што, калі прадстаўнік візуальна еўрапейскую яе частку як галаву, то была б яна непрапарцыянальна малая ў параўнанні з яе азіяцка-сібірскім тлустым азадкам. Такім чынам, асацыяцыя яе з жахлівым чарвячыскам відавочная. Мабыць, не гэтак відавочна для дарослых, але і для эстонскамоўных дзяцей гэта дакладна. У той жа час, звярніце ўвагу на тое, у Эстоніі таксама жывуць выключна рускамоўныя дзеці. І павінна быць іх даволі шмат, так як расійская меншасць у Эстоніі складае 25% ад агульнага ліку насельніцтва амаль паўтарамільённай краіны. Таму вытворца глобусіка прызначыў ім іншы, так бы мовіць, паралельны, на якім надпіс Расія гэтак жа вялікі, як жахлівы абшар, які яна займае. Вось, такім чынам і ваўкі сыты, і авечкі цэлы.

Ад часу калі Расія ўчапілася да Сібіры як галодны крыль да тоўстага кіта, стала самай вялікай краінай у свеце. Таксама магла б стаць самай магутнай дзяржавай, але Сібір аддае ўсё, але таксама ўсё бярэ на сябе. Даючы багацце Прыроды, у той жа час забірае ўмеранасць і здаровы розум. Асляпляе невычэрпным багаццем, аглушае велізарным памерам і ў той жа час шкодзіць чалавечаму ўяўленню лёгкімі здабычамі. Прыцягвае да сябе, але і трымае ў страху непранікальнай таямніцай. Гэта як чароўны збан, з якога ўвесь час льецца найлепшае віно. Гэта як чароўны стол, які незалежна ад колькасці галодных гулякаў яшчэ ўгінаецца пад адмысловымі стравамі. Еўропа таксама бяседуе пры такім стале. Але на самой справе на яве. Але Сібір для Расіі — бясконцы сон. Залаты сон, з якога шкода прачнуцца. Бо ўсё мае свой канец.

Памер Расіі адзначаецца велічынёй Сібіры. Тым не менш, насуперак логіцы не ёсць так, што Расіі тым больш прыбывае (багацця, сілы, магутнасці), чым больш Сібір траціць (тайгі, някранутай зямлі, карысных выкапняў). Дакладна адваротна. Расія з'яўляецца больш слабой, чым больш абрабавана Сібір. Чым больш яе магутнасць памяншаецца, тым больш вычэрпваюцца сібірскія пажыткі. Калі іх меншае, слабее Расія. Да нядаўняга часу паменшвалася толькі з-за натуральнай прагнасці людзей. Церабілі дашчэнту сібірскую тайгу і дзікіх жывёл, груба вырывалі выкапнёвыя скарбы зямлі, бяздумна труцілі атмасферу выкідамі папсаваных заводаў. Але нават неапанаваную прагнасць можа неяк рацыяналізаваць прынцыпамі суровага здаровага сэнсу. Ці рацыяналізавалі? Ці падвярглі разважэ ці хоць звычайнай прыстойнасці? Куды там! Як гэта было стагоддзі таму, так і сёння. Толькі што ад нядаўняга часу пачала зніжаць багацце Расіі і заадно Сібіры змардаваная чалавечай прагнасцю Прырода. Аказваецца, што пад уплывам глабальнага пацяплення растае вечная мерзлата, якая ахоплівае большую частку Сібіры. Акрамя таго, у яе размоклую берагавую лінію глыбей угрызаецца марская вада. Можа, праміну́ць стагоддзі, калі яна даб'ецца да падножжа Уральскіх гор, але раней, значна раней паглыне Расію вырослая ў яе ўлонні цвіль. Тая цвіль з аўтарытарна-дыктатарскай фактурай. А ўядаецца яна ў расійскую душу глыбей і глыбей.

Як на расійскі маштаб магутнасці, гэта нязначныя страты. Аднак з цягам часу яны будуць павялічвацца як нялечаныя дзіры ў зубах. Прыйдзе час, у рэшце рэшт, што Расія не будзе мець чым кусаць. Але нават тады не перастане пагрозліва ляскаць сківіцамі — я думаю, што да таго часу, пакуль застанецца апошні непераважаны хоць адзін кавалачак Сібіры. На жаль, калі яе дарэшты перапрацуюць, прападуць і Расія, і Еўропа. Да таго часу, аднак, расійская цвіль абрасце ўсю Еўропу. Ужо ўелася яна ў польскую дзірку. Пра Беларусь, Венгрыю, Грэцыю толькі прыгадаю.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# ПОМНІК Дмоўскаму

Пры адсутнасці на апошняй сесіі беластоцкай Гарадской рады радных клуба Грамадзянскай платформы, аднагалосна, значыць, галасамі радных Права і справядлівасці і раднага Славаміра Назарука з Форуму меншасцей Падляшша — кааліцыянта ГП было вырашана, што на плошчы Незалежнасці стане помнік Дмоўскаму. Гэты даваенны палітык, адзін з заснавальнікаў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі (Narodowej Demokracji), лічыцца галоўным ідэолагам польскага нацыяналізму і антысемітызму. У цяперашні час ён з'яўляецца заступнікам нацыяналістычных асяроддзяў і крайняй правіцы. На прапагандаваную ім ідэалогію спасылаецца між іншым Усяпольская моладзь. І вось радны, які выводзіцца з гэтага руху Дар'юш Васілеўскі з Камітэта Трускаляскага заклікаў беластоцкіх самаўрадаўцаў ад імя прыхільнікаў камітэта па будаўніцтве гэтага помніка (у ім ёсць сотні людзей, у тым ліку каталіцкія біскупы, дэпутаты ад ПіС і прадпрымальнікі) даць згоду на яго ўзвядзенне на плошчы Незалежнасці — насупраць касцёла св. Роха. Пералічыў на працягу сесіі заслугі Дмоўскага ў здабыцці Польшчай незалежнасці. Згадаў аб грамадскім камітэце пабудовы помніка, які збірае грошы на будаўніцтва помніка пад лозунгам «**Jestem Polakiem, więc mam obowiązki polskie**», і ўжо даўно сабраў неабходныя дзве тысячы подпісаў пад заявай на пабудову.

Ён назваў шмат цытат з твораў і прамоў Дмоўскага, але пазбягаў спасылак на яго нацыяналістычныя і антысеміцкія погляды, якія ў полікультурным Беластоку, з моцнымі даваеннымі габрэйскімі традыцыямі маюць асаблівы водгук. «Вырычыў» яго ў агучэнні гэтых поглядаў Дмоўскага радны лявіцы Войцех Каранкевіч. Я цытую тут за ім адзін з іх: «Зразумела, што для таго, каб забяспечыць будучыню Польшчы, трэба моцна і паслядоўна імкнуцца да таго, каб габрэяў у нашай краіне было ўсё менш і менш. Асновай іх сілы з'яўляецца апанаванне гандлю ў Польшчы і ў значнай частцы рамёстваў, перанасычанасць габрэямі (*zażydzenie*) нашых гарадоў і мястэчак. Палякі мусяць самі ўзяць у рукі свой гандаль, ачысціць ад габрэяў сваё рамяство». Радны Каранкевіч таксама адзначыў: «Дмоўскі сказаў: «Я паляк, таму маю польскія абавязкі: яны тым большыя і тым больш моцна да іх пачуваюся, тым вышэйшы прадстаўляю тып чалавека». Чаму вы ставіце клічнік (заканчваючы на першай частцы гэтага сказа — М. Х.), а не, напрыклад, тры кропкі? (...). Я баюся, што мае абавязкі як паляка цяпер будуць мець нацыянальнасць. Што гэта значыць, што абавязкі польскія? Я гэтага не разумею, і баюся, што яны могуць прывесці да лозунгаў «Польшча для палякаў». А гэтага я б не хацеў».

Падчас дыскусіі Славамір Назарук пытаўся, здавалася, занепакоены ідэяй пабудовы помніка: «Нацыяналістычны рух у гэты момант адраджаецца, умацоўваецца. Мы бачым гэта на маршах, лозунгах. Я, як беларус, як праваслаўны грамадзянін гэтай краіны, як паляк беларускага паходжання, я хацеў бы спытаць, ці мы, як група, не павінны гэтага апасацца? Якое ёсць месца для нас? Цытата «Я паляк, таму ў мяне польскія абавязкі» разумею як грамадзянін Польшчы. А як беларусы, літоўцы, татары, як мы павінны разумець гэта?»

Радны Васілеўскі адказаў яму: «Адзіным выпрабавальным каменем з'яўляецца лаяльнасць меншасцей у адносінах да польскай дзяржавы».

Адразу ж пасля тлумачыў са спасылкай на антысемітызм Дмоўскага: «Ён прасіў толькі за аднаўленне сярэдняга класа ў апазіцыі да габрэяў, каб стварыць сучасную польскую нацыю».

Супраць будаўніцтва помніка выказаўся толькі радны Каранкевіч. Радныя ГП на момант галасавання былі на сустрэчы з Гжэгажам Схетынам, які якраз тады вёў у Беластоку кампанію па выбарах новага старшыні гэтай партыі. У кулуарах сесіі, на пытанне Лукаша Леанюка з Радыё Рацыя аб прычынах размяшчэння помніка ў Беластоку антысеміту, радны Васілеўскі сказаў: «Ён быў, як заявіў адзін з паланістаў, юдэаскептыкам, але з пункту гледжання эканомікі».

Я спытаўся ў раднага Назарука, чаму ён прагаласаваў за пабудову помніка, а раней быў нават адным з заяўнікаў, каб Гарадская рада дала згоду на яго будаўніцтва: «Я галасаваў у адпаведнасці са сваімі перакананнямі. Гэты помнік для мяне гэта пытанне культуры, а не палітыкі».

Яшчэ ў папярэднім тэрміне беластоцкай ГР, у той час радны таксама ад Форуму меншасцей Падляшша Адам Мусюк, выказваючыся адмоўна наконт такога ўшанавання Дмоўскага ў Беластоку, выказаў надзею, што радныя не будуць прымушаны мець справу з гэтай ідэяй. Аднак жа. І прытым пры падтрымцы і супольнай ініцыятыве ФМП.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XXII
# Прэзентацыі абрадавых калектываў



Падвядзенне вынікаў раённых прэзентацый абрадавых калектываў, што праходзілі ў Беластоку (два разы), у Бельску-Падляшскім і Дубічах-Царкоўных і былі арганізаваныя Галоўным праўленнем БГКТ у супрацоўніцтве з мясцовымі асяродкамі культуры, адбылося ў Гайнаўскім доме культуры. 22 лістапада прайшла там цэнтральная імпрэза — XXII Прэзентацыі абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне». На новаадрамантаванай сцэне ГДК выступілі ўсе калектывы, якія раней прэзэнтаваліся на раённых аглядах. Паказалі яны абрады і песні, якія спадарожнічалі вясковаму жыццю ў мінулым і якія трэба захаваць ад забыцця. З абрадамі запрэзэнтаваліся ажно 11 калектываў, у якіх выступілі каля 200 чалавек. Першы раз у аглядзе «Беларускі абрад на сцэне» запрэзэнтавалася так многа вучняў падставовых школ і гімназій з Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Нарвы і Гарадка. Саставілі яны прыблізна палову ад ліку ўсіх выканаўцаў, выступіўшых на гайнаўскай сцэне.

У канцэртнай зале сярод публікі найбольш было асоб сталага ўзросту, якія памятаюць вясковыя абрады са сваёй маладосці. Паглядзець выступы школьнікаў і гімназістаў прыбылі таксама іх равеснікі. Беларускую абрадавую імпрэзу адкрылі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і віцэ-старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень. Сярод публікі былі старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, яго намеснік Андрэй Скепка, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч і галоўны рэдактар гайнаўскага праваслаўнага выдання «Братчык» Марк Якімюк. Віцэ-старшыня ГП БГКТ Васіль Сегень заявіў, што прэзентацыя нашых абрадаў з'яўляецца асаблiва важным мерапрыемствам, бо адклікаецца да аўтэнтычнага фальклору нашых беларускіх вёсак, які знікае.

— Магія і таямнічасць беларускага абраду гэта частка нашай беларускай культуры, — сказаў старшыня Васіль Сегень. — Я хацеў асабліва падзякаваць акцёрам і іх настаўнікам за іх ангажаванасць у прапагандаванне нашых абрадаў і беларускай культуры ў цэлым. Радуе нас, што сёння выступіць так многа дзетак і моладзі, якія, прэзентуючы абрады, знаёмяцца з жыццём сваіх продкаў.

Мерапрыемства ўдала вяла Юліта Сушч, настаўніца беларускай мовы ў Кірыла-Мяфодзіеўскай школе ў Беластоку. Першымі перад публіку выйшлі вучні Школьна-дашкольнага комплексу ў Нарве, якія запрэзэнтавалі «Капанне бульбы», карыстаючыся шматлікімі рэквізітамі.

— Капанне бульбы паказваем першы раз. Мы выступілі з гэтым абрадам на раённых аглядах і паказалі яго ў Ляхах Нарваўскай гміны па просьбе жыхароў гэтага сяла. У нас ёсць здольныя акцёры і ім цікава выступіць перад публікай, — сказала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк, якая падрыхтавала вучняў да выступу з абрадам капання бульбы.



■ Хор «Васілёчкі» запрэзэнтаваў абрад «Сенакос»

— Я выступіў у ролі гаспадара поля, на якім капалі бульбу. Раней я часта прымаў удзел у дэкламатарскім конкурсе і ў «Беларускай гавэндзе». Вельмі добра адчуваю сябе на сцэне. Сёння прыемна было выступіць перад гайнаўскай публікай, — заявіў Хрысціян Паскробка, часты пераможца конкурсаў. Яго сяброўкі Карнелія Порац і Юлія Шкляжэўская сказалі, што ім падабаюцца выступы з даўнім фальклорам, бо могуць тады вучыцца сваім традыцыям.

Другімі на сцэну выйшлі вучні I-III класаў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, якія паказалі абрад «Як гэта было з ільном?». Займаюцца яны ў школьным беларускім калектыве «Жэўжыкі», апякунамі якога з'яўляюцца класны выхавацель Марыянна Ваўрусевіч і настаўніца-бібліятэкар Анна Фіёнік.

— Мы знаёмім дзетак з беларускай культурай і нашымі традыцыямі. Вучым нашых жэўжыкаў размаўляць на роднай мове, спяваць народныя песні і гуляць, размаўляючы па-свойму. Дзеткі ахвотна выступаюць з нашымі абрадамі. Гэтая група жэўжыкаў моцная і таму маглі мы навучыць іх паказаць гэты складаны абрад, — сказала Анна Фіёнік.

Тэатральны калектыў «Антракт» з Бельскага дома культуры выступіў з прадстаўленнем «Дзеці і бежанства». Калектыў захапіў публіку акцёрствам вучняў і зацікавіў тэмай бежанства.

— Мы запрэзэнтавалі фрагменты абрадаў, з якімі выступалі раней. Паказвалі «Жніво» (у жнiўную пару нашы продкі адпраўляліся ў бежанства), запрэзэнтавалі велікодны абрад «Валачэбнікі», веснавыя абрады «Юрыя», «Рагулькі» і «Сенакос» (у гэтую пару нашы прадзеды вярталіся з бежанства), — сказала інструктар БДК Альжбета Фіёнік.

Вучні бельскай «тройкі» Павел Кучынскі і Дар'я Гліва выказалі радасць, што могуць вучыцца акцёрству, займаючыся ў тэатральным калектыве «Антракт». Сказалі, што ў сем'ях іх бабуль успаміналася бежанства. Ведаючы трагічныя здарэнні перыяду бежанства, маглі яны выступіць перад публікай з адпаведнымі эмоцыямі, якія спадарожнічалі бежанцам.

Вучні Комплексу школ у Гарадку запрэзэнтавалі абрад «Гарадоцкае вяселле».

— Рыхтуючыся да школьнага святкавання мы з настаўніцай фізкультуры Алінай Госцік падрыхтавалі прэзентацыю вясельнага абраду. Запрапанавалі нам паказаць яго падчас абрадавага мерапрыемства і мы згадзіліся. Нашы вучні выступаюць тут у пазычаных ад беларускіх калектываў касцюмах і ва ўборах, якія так прыгожа выканалі бацькі нашай моладзі, — расказала Альжбета Грэсь, настаўніца польскай мовы ў гарадоцкай школе.

Вельмі прыгожае і багатае сцэнічнае афармленне для выступаў з абрадам «Пакудзелле — успаміны бежанства» падрыхтавалі вучні калектыву «Званкі», які дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры. Іх апякунка Вера Масайла пачала вучыць дзетак беларускай культуры яшчэ будучы настаўніцай Самаўрадавага прадшколля № 3 у Гайнаўцы.

■ З абрадам «Пакудзелле — успаміны бежанства» выступіў калектыў «Званкі» з ГДК

— Калектыў «Званкі» дзейнічае з 2008 года. Тады я выйшла на пенсію і хацела працягваць работу ў карысць беларускай культуры. Удалося мне згуртаваць моладзь і заснаваць калектыў «Званкі», члены якога дэкламуюць па-беларуску, спяваюць беларускія песні і калядкі, паказваюць нашы абрады. На раённых аглядах і сёння мы запрэзэнтавалі ўспаміны пра бежанства падчас пакудзелля. Гэта важная гістарычная падзея, пра якую павінны ведаць нашы вучні. Успамінанне бежанства падчас абрадавых выступленняў дазваляе лепш зразумець падзеі стогадовай даўнасці, — гаварыла Вера Масайла.

З абрадам «Выпраўленне маладой да шлюбу» выступіў калектыў аўтэнтычнага фальклору «Малінкі» з Малiннік, супольна з вучнямі арлянскай школы, якія займаюцца ў Гмінным асяродку культуры ў Орлі. Маладую ўдала іграла Наталля Сельвясюк з Мора, вучаніца чыжоўскай школы, якая займаецца ў арлянскім асяродку культуры. Маладая акцёрка заявіла, што была ўжо на вяселлі і некаторыя вясельныя традыцыі ўжо ёй вядомыя.

— Іншыя вучні таксама могуць навучыцца цікаваму вясельнаму абраду, у якім я выступаю як вясельная мама, — заявіла дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук.

Кіраўнік «Малінак» Вера Нічыпарук радавалася, што маладыя выступаюць разам са старэйшымі членамі малінніцкага калектыву і выказала надзею, што можа частка з выступаючых зацікавіцца фальклорам і схоча выступаць у іншых сцэнках, якія будуць паказваць «Малінкі».

Па-акцёрску запрэзэнтаваўся хор «Васілёчкі», які дзейнічае пры Бельскім доме культуры. Бельскія харысты захапілі публіку абрадам «Сенакос».

— Рэжысёрам, сцэнарыстам і нашым настаўнікам падчас падрыхтоўкі абраду сенакосу была наша інструктар па тэатральнай дзейнасці ў БДК Альжбета Фіёнік. Яна навучыла нас як хадзіць па сцэне, як правільна гаварыць па-акцёрску і як паказваць свае эмоцыі. Альжбета таксама спецыяліст па нашым фальклоры і звяртала ўвагу на розныя дэталі, характэрныя сенакосу ў мінулым, — расказвала арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

Калектыў «Арляне» з Орлі паказаў «Уваходзіны» ў новы дом. Валянціна Марціновіч з «Арлян» патлумачыла, што ўсе прадметы, якія прыносілі да гаспадароў, калі тыя спраўлялі наваселле, былі важнымі. Сама спадарыня Валянціна спякла каравай, з якім прыехала на агляд у Гайнаўку.

Калектыў «Крыніца» з Беластока запрэзэнтаваў абрад «Дагавары», падрыхтаваны пад кіраўніцтвам сакратар ГП БГКТ Валянціны Ласкевіч.

— Мы выступаем на дагаварах як сямейнікі будучай маладой. У нас быў адважны дзядуля, які дапамог абмежаваць пасаг, якога дамагаліся бацькі маладога і гэта дапамагло заключыць дагавар на вяселле, — сказала Валянціна Ласкевіч.

■ «Жэўжыкі» з бельскай «тройкі» паказалі абрад «Як гэта было з ільном?»



«Рэчанька» з Козлікаў цікава паказала «Вячоркі». Жанчыны побач ручных работ запрэзэнтавалі размову з гумарам, якая адагнала смутак так часта прысутны сярод найстарэйшых жыхароў нашых вёсак.

— Я і цяпер мала гляджу тэлевізар. Восеньскімі і зімовымі вечарамі пастаянна спатыкаюся з вясковымі жанчынамі. Мы займаемся ручнымі працамі і размаўляем на розныя тэмы. Гэта і паказваем на сцэне. Я з кавалкаў палатна выконваю абрус, іншыя жанчыны вышываюць і робяць на прутках. Актыўнае жыццё з жартамі дазваляе пераадолець розныя цяжкасці і жыць больш радасна, — сказала Люба Гаўрылюк з «Рэчанькі».

Абрад «Багаты вечар» запрэзэнтаваў калектыў «Асенні ліст» з Гарадка.

— Мы паказваем розныя фокусы, якія рабілі ў мінулым у вечар напярэдадні Новага года. У час нашай маладосці сыпалі мы з попелу дарожкі ад хлопцаў да дзяўчат, здымалі і хавалі фортачкі, малявалі па аконным шкле, запіхвалі коміны або стараліся прадбачыць, калі якая дзяўчына выйдзе замуж, — заявілі Лена Бура і Надзея Лапінская з калектыву «Асенні ліст».

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Набліжаецца канец 2015 года і мяне зацікавіла колькасць жыхароў у маёй гміне. Аказваецца, што іх усё менш і менш. Вось у маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова на працягу двух гадоў — у 2014 і 2015 — ляўкоўцаў паменшала на 6 асоб. Значна зменшылася колькасць жыхароў найбольшай у гміне вёскі Нараўка — на дваццаць чалавек.

Зараз Нараўчанская гміна налічвае 3 802 жыхары. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 894 чалавекі. У гміне ёсць іншыя даволі вялікія вёскі: у Семяноўцы пражывае 406 асоб, у Старым Ляўкове — 341, у Новым Ляўкове — 207, у Скупаве — 191, у Міклашэве — 175, у Плянце — 153, у Тарнаполі — 126, у Лешуках — 120 і ў Альхоўцы — 105.

Ніжэй сотні налічваюць вёскі: Ахрымы — 99, Свінароі — 93, Заблотчына — 68, Стачок — 66, Старое Масева — 61, Гушчэвіна — 57, Баб'я Гара — 56, Міхнаўка — 53, Лесна — 51, Новая Лука і Янова — па 44, Новае Масева і Падляўкова — па 36, Грушкі — 33, Гарадзіска — 32, Пасекі — 31, Капітаншчына — 30, Слабодка — 23 і Мінкоўка — 20.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 18 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Навіны і Парослае — па 13, Церамкі — 11, Забрады — 9, Замоша — 7, Баравыя і Ланчына — па 6 ды ўсяго па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае. У Лазовае ў свой бацькоўскі дом нядаўна вярнууўся жыць самотны мужчына. Ён рамантуе дом, у якім будзе зімаваць. І так цяпер тут на ўскраіне лесу пражывае двух самотных мужчын.

**Пабольшала жыхароў** у Баб'яй Гары (на 4 асобы), Бярнацкім Мосце (+1), Заблотчыне (1), Замошы (1), Грушках (2), Міклашэве (2), Новай Луцэ (4), Падляўкове (1), Пасеках (1), Слабодцы (2), Старым Масеве (2), Стачку (2), Тарнаполі (4) і ў Церамках (2).

**Паменшала жыхароў** у Альхоўцы (на 6 асоб), Ахрымах (2), Баравых (2), Забрадах (1), Капітаншчыне (1), Лешуках (4), Лесной (2), Мінкоўцы (1), Міхнаўцы (4), Нараўцы (20), Новым Ляўкове (6), Новым Масеве (2), Семяноўцы (6), Скупаве — (2), Старым Ляўкове (2) і ў Янове (2).

Бывае так, што, напрыклад, новаляўковец зарэгістраваны ў Новым Ляўкове, а пражывае ён у Навінах, або жыхарка Новага Ляўкова ў сваёй вёсцы рэдка калі бывае, бо яна пастаянна вядзе сельскую гаспадарку на далёкай калёніі ў Старым Ляўкове. Вазьмі тады і разбярыся, дзе хто прабывае. Абедзве гэтыя асобы маюць свае дамы ў Новым Ляўкове, але іх тут няма.

У гэтым годзе сем пар святкавала 50-годдзе шлюбнага жыцця. Медалі за гэта атрымалі Анатоль і Зіна Раманчук з Альхоўкі, Ян і Ніна Мелешы з Гушчэвіны, Мікалай і Марыя Каліноўскія з Лешукоў, Антон і Аляксандра Конкелі ды Аляксей і Вера Харкевічы з Нараўкі, Аляксей і Ніна Сухадолы з Падляўкова ды Міхал і Раіса Матысюкі з Семяноўкі.

На працягу года лік жыхароў Нараўчанскай гміны паменшаў на 34 асобы і гэта сумны факт. **Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



# ШАЛКЕВІЧ У БЕЛАСТОКУ




Віктар Шалкевіч рознапланавы як ягоныя пярсцёнкі. Адзін з якіх — закуплены ў ювелірнай краме ў Саколцы: патрыятычны, з арлом, другі — з грузінскім крыжом святога Георгія, трэці — ад папы Бенедыкта XVI. Адпаведна некалькі складнікаў, некалькі культур і некалькі моў сфармавалі Шалкевіча як творцу і літаратара. У гэтым можна было пераканацца (у чарговы раз), калі гарадзенскі шоўмен наведаў 25 лістапада Падляшскую бібліятэку ў Беластоку, дзе прэзентаваў польскамоўны пераклад сваёй кнігі «Рэквіем па непатрэбных рэчах». Пераклад з'явіўся ў гэтым годзе дзякуючы падтрымцы ваяводскай бібліятэкі і перакладчыцкім здольнасцям Марты Шалкевіч і Пшэмыслава Славінскага.

Як адзначае аўтар, «Рэквіем» зразумелы чытачам па абодва бакі мяжы. Гісторыі і рэчы, якія апісаў Шалкевіч, хоць вельмі асабістыя — агульныя для жыхароў польска-беларускага памежжа. З'яўленне ў вёсках першых тэлевізараў і «паходы да цёткі Мані на кіно», шпаркія матацыклеты і джынсы, якія толькі-толькі пачыналі сваю ашаламляльную кар'еру — тыя з'явы, якіх мы самі магчыма не бачылі, але напэўна чулі пра іх у эмацыйных аповедах бацькоў. Усё гэта, прыпраўленае сакавітай гарадзенскай мовай з дадаткам польскіх элементаў і рарытэтнымі здымкамі, робіць кнігу прываблівай і вельмі цікавай.

У адным з раздзелаў Віктар Шалкевіч напісаў пра сваю першую гітару, падораную бацькамі. Тады будучы бард на школьнай сцэне падпяваў пад яе гукі песенькі кшталту гэтай: *В синем лесу опадает листва/ Стонут деревья про осень/ В синем лесу пожелтела трава/ А в сердце нет осени вовсе*... Зразумела, прэзентацыя выдання не магла прайсці без міні-канцэрта. Праз прыблізна сорак гадоў у Беластоку ўраджэнец шматкультурнага Поразава заспявае: ***Ze zdziwienia łypie oczami/ Zabiedzona ta gawiedź i szmać/ Jestem uprzywilejowany/ Bom ja Polak, *** вашу мать***. Зразумела, справа ідзе пра ўладальнікаў магічнай пластыкавай карткі, якая дазваляе беларускім грамадзянам больш спраўна перасякаць мяжу, чым іх суродзічам, якія не здолелі авалодаць польскай мовай. Сам гарадзенскі бард прызнаецца, што і яму нескладана падарожнічаць «ад Одры ажно да Волгі» і гэткім чынам адчуваць сябе як у сваёй хаце ў шмат якіх месцах ва ўсходне-цэнтральнай Еўропе. Відавочна, яго не хвалююць праблемы падобныя на тыя, ад якіх пакутуе лірычны герой песні «Liter i karton»: *Srogi polski celnik/ Tak mi kiedyś powiedział/ Panie, liter i karton/ Panie, karton i liter/ Szanuj pan prawo polskie/ Huczy mi w uszach jak dzwon/ Szanuj pan prawo polskie/ Bo w dupę dostaniesz i won.*

Спрэчкі пра беларускасць ці польскасць гістарычных постацей Шалкевіч каментуе вельмі трапна, узгадваючы словы Ежы Гедройца, які сказаў: *Я як маятнік — раз так, раз так. Людзям, якія жылі ў двух-, а нават трохмоўнай дзяржаве, якая называлася Рэч Паспалітая, вельмі добра, вельмі лёгка. Мне здаецца, што калі чалавек монафанічны, то ён нечым сабе адмаўляе* — упэўнены Шалкевіч. Гэтыя словы ён дасканала пацвярджае сваёй шматграннай дзейнасцю ў тэатральнай, літаратурнай і музычнай галінах. У яго атрымліваецца плённа пісаць і ствараць на некалькіх мовах і ў некалькіх жанрах. Да таго — з разуменнем тонкасцей кожнай культуры. Прыкладам таму — пераклады вершаў паэта міжваеннага перыяду Мар'яна Хемара (паляка габрэйскага паходжання), якія былі выкарыстаныя ў спектаклі Купалаўскага тэатра «Местачковае кабарэ». Жывым, бясспрэчным доказам таму таксама вечарыны падобныя на тыя, на якія запрашаюць Шалкевіча ў Беласток.

Сказаць, што гарадзенскі актор і бард — чалавек памежжа — мала. Трэба сказаць, што Шалкевіч — надзвычай таленавіты і шматгранны творца, чые ўмелсці праявіліся ярчэй дзякуючы таму, што ў сваёй мастацкай дзейнасці ён чэрпае з розных крыніц. А ягоны неардынарны гумар забаўляе як польскіх інтэлігентаў-патрыётаў, што прыходзяць на літаратурныя сустрэчы ў Падляшскую бібліятэку, так і беларускіх фрыкаў. А гэта — нялёгкая штука. Каб яе спасцігнуць, як кажа Віктар Шалкевіч: трэба круціцца!

**Ганна МОРДАНЬ**

# Малы памежны рух — даеш старт!




Актывісты Беларускага дома на мяжы

Падпісанае абодвума бакамі, але яшчэ не ўступіла ў сілу. Пагадненне аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю дагэтуль не дае магчымасці для эканамічнага развіцця прыгранічных рэгіёнаў. Ці акцыя, якая мае на мэце інфармаваць грамадства аб магчымасці спрошчанага парадку перасякання мяжы, прынясе чаканыя вынікі?

Такое пагадненне дзейнічае ў нас з Украінай і Калінінградскай акругай. Гэта палягчае пакупкі і турыстычны рух на абодвух баках мяжы. Аднак усё паказвае на тое, што ў гэтым выпадку праблема ляжыць па старане беларускіх улад. Польшча павінна атрымаць дыпламатычную ноту аб ратыфікацыі пагаднення беларускім бокам.

Пра гэта, якія карысці грамадзянам прыгранічных мясцовасцей можа даць увядзенне малога памежнага руху інфармавалі на польска-беларускіх пераходах у Бабро́ўніках і Кузніцы актывісты Беларускага дома ў Варшаве і Альянса грамадзянскай Гарадзеншчыны.

— Аказваецца, што дзяржаўныя ўлады Беларусі не толькі не зацікаўлены ўвядзеннем спрошчанага парадку перасякання мяжы, але таксама інфармацыі аб гэтым нідзе няма, — кажа Алесь Зарэмбюк з Беларускага дома ў Варшаве. — На пачатку нашай акцыі 90% рэспандэнтаў адказала, што нічога не чула, толькі некаторыя людзі — гэта прыкладна 10% — ведалі тэму. Яны хацелі б кожны дзень ездзіць у Польшчу і наадварот. Аднак цяпер заўважаем, што людзі паінфармаваныя. Чулі што-небудзь пра малы памежны рух і чакаюць яго.

Дзякуючы малому памежнаму руху можна будзе працей перайсці праз мяжу на падставе канкрэтнага дакумента, які нагадвае пластыкавую ідэнтыфікацыйную картку. Памежная паласа, дзе жыхары змогуць перамяшчацца паміж краінамі ў рамках пагаднення, мела б шырыню 50 км па абодвух баках мяжы. З малога памежнага руху скарысталі б два вялікія гарады — Брэст і Гродна. Жыхары, якія схочуць замяніць візу на спецыяльную картку, павінны зарэгістравацца на тэрыторыі, ахопленай малым памежным рухам, і жыць там не карацей чым тры гады. Дадатковым варункам для такога падарожнічання будзе афармленне медыцынскай страхоўкі на час знаходжання за мяжой.

Інфармацыйная кампанія „Малы памежны рух — даеш старт!" праводзіцца ў Берасцейскай і Гарадзенскай абласцях — у тых гарадах, якія патэнцыйна апынуцца ў межах малога памежнага руху — а гэта Свіслач, Ваўкавыск, Бераставіца, Масты, Пружаны. Там актывісты расклейваюць інфармацыйныя плакаты, разносяць буклеты па паштовых скрынях, распавядаюць аб тым, што такое малы памежны рух, што яму ўжо чатыры гады і што за гэтыя чатыры гады ўсё гатовае. Не хапае толькі рашэння беларускага кіраўніка.

— Акцыя накіраваная на тое, каб як мага большая колькасць беларусаў ведала, што гэта малы памежны рух, — кажа Алесь Зарэмбюк.— І каб яны не чакалі таго, як ужо чатыры гады чакаюць, што вось нехта прыйдзе і ім гэта зробіць, але каб яны звярнуліся да сваіх мясцовых улад, звярнуліся да свайго дэпутата парламента, звярнуліся ў міністэрства замежных спраў.

Пагадненне аб малым памежным руху было падпісанае міністрамі замежных спраў Польшчы і Беларусі 12 лютага 2010 г. У тым жа годзе ратыфікавалі яго абедзве палаты польскага і беларускага парламентаў і было яно падпісанае толькі прэзідэнтам Польшчы. Да ўступлення ў сілу неабходны подпіс Аляксандра Лукашэнкі і абмен дыпламатычнымі нотамі паміж Польшчай і Беларуссю. Беларускі бок па-ранейшаму адказвае, што яшчэ не гатовы да рэалізацыі праграмы.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

Чалавек у кругаверці вайны.

# Паводле ўспамінаў Дзмітрыя Шатыловіча

Асаблівае месца ў аўтабіяграфічнай прозе літаб'яднання „Белавежа" займае напісанае адным з першых „белавежцаў", пісьменнікам старэйшага пакалення Дзмітрыем Шатыловічам. Ягоныя ўспаміны друкаваліся на старонках „Нівы", у зборніках „У новай Айчыне", „Пакаленне вайны", „Час трывогі і надзеі". Звернемся да двух тэкстаў: „Уцёкі" і „Першыя крокі з лабірынта няволі", што ўяўляюць сабою дзве звязаныя між сабою часткі даволі цэласнага твора, якія пабачылі свет у альманаху беларускіх пісьменнікаў замежжа „Беларус".

У творах Дзмітрыя Шатыловіча здзіўляе дакладнасць выкладзеных фактаў. Падзеі ўзноўлены літаральна па днях. Гэта не стала б магчымым, калі б пісьменнік не захаваў запісаў з тых часоў. Звычку весці дзённік ён выпрацаваў яшчэ са школы. І хоць дзённік з перыяду, калі адбываюцца падзеі, не збярогся, але аўтар прадбачліва ўзнавіў іх у хуткім часе, калі быў паранены і ляжаў у шпіталі. Апроч таго, засталіся лісты да родных, у якіх падрабязна апісваліся розныя здарэнні.

Разважаючы пра мемуары „белавежца" Янкі Жамойціна, у якіх галоўнае — перажытае асобай на фоне гістарычных падзей, літаратуразнаўца Людміла Сінькова ставіць рытарычнае пытанне: „І ці не прадвызначаны пры гэтым лёс індывідуальны ходам гісторы ў тым сэнсе, які меў на ўвазе расійскі паэт, гаворачы: «Времена не выбирают, в них живут и умирают»". Зразумела, што прадвызначаны. Але ў дачыненні да героя ўспамінаў Дзмітрыя Шатыловіча патрэбна сказаць: ён не паміраў. Ён жыў. Ягоная не знішчаная ніякімі бедамі-нягодамі вітальнасць, светласць, прага жыцць заўсёды перамагалі абставіны, дапамагалі выбрацца з самых складаных сітуацый. Часам — выкруціцца, часта абмануць свой лёс. Але дзеля важнае мэты — выжыць. Захаваць жыццё — самую вялікую каштоўнасць, якая дадзена чалавеку.

Што дапамагло яму выжыць там, дзе зрабіць гэта было вельмі цяжка, часам немагчыма. Ёсць некалькі момантаў, якія паўтараюцца, якія ёсць асновай, грунтам жыццёвае мудрасці яшчэ зусім маладога чалавека. А было яму толькі васямнаццаць гадоў. Па-першае, гэта вера героя. Ён верыць, што ўсё будзе добра. Бо — па веры нашай. І яму даецца па веры.

Падзеі адбываюцца ў вельмі няпростым часе: 1944 год. Усходняя Прусія. Наш герой з кагорты тых шматлікіх асоб, што былі вывезены ў Нямеччыну на прымусовыя працы. Першая частка ўспамінаў мае назву „Уцёкі". Але размова не ідзе пра ўцёкі ад баўэра, куды трапіў. Так, там патрэбна было многа працаваць. Але хіба вясковыя беларусы калі баяліся ці цураліся працы, прывычнай, сялянскай. Добра кармілі, не крыўдзілі. Ведаў пра гаспадарчыя сакрэты. Лічыў, што нават гаспадар павінен яго баяцца. Таму лепшага не шукаў. Гэтыя падзеі падаюцца як экспазіцыя ў сюжэтным дзеянні. Але ў жніўні 1944 года яго забіраюць капаць акопы. Гэта і ёсць завязка. Далей аўтар малюе шырокае палатно, маштабы якога ўражваюць: дзясяткі тысяч людзей капаюць акопы, каб затрымаць рух савецкага войска. Накарміць такую колькасць магчымасці няма. Апісанне нагадвае працы ў ГУЛАГу. Той жа здзек, голад, няволя, прымусовая праца. Галодных, знямажаных людзей утрымліваюць сілай. Яны ўвесь час пад вартай. На ноч замыкаюць у велізарнай пуні з гнілой саломай. Да таго ж — вошы. У прадмове пісьменнік не засяроджваецца на гэтых дэталях, падае іх бягучым радком. Але з іх складваецца даволі выразная, яскравая карціна здзекаў, трываць якія было немагчыма. Пазней гэтая карціна напаўняецца новымі дэталямі, новым зместам. Так, у бяссонную ноч перад уцёкамі герой назірае, аналізуе наступнае: „З усіх бакоў даносіўся храп змучаных і галодных людзей. Колькі іх тут? Можа, чатырыста, а можа і пяцьсот... Як калоды дрэў, ляжалі яны адзін ля другога ў бруднай саломе. Тут так цесна, што цяжка выпрастаць ногі. Паспрабуй у цемры прабрацца да дзвярэй за сваёй патрэбай!". Чалавек не мусіць мірыцца з такімі абставінамі. Таму і з'яўляецца адзіна магчымая, ратавальная думка пра ўцёкі, якая мабілізуе сілы, настройвае на пазітыўнае.



Дзмітры Шатыловіч пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі (1946 г.)

Герой Шатыловіча надзвычай уважлівы, здольны аналізаваць тое, што адбываецца з іншымі, каб скарыстацца іх досведам дзеля рэалізацыі сваіх планаў. Так, перш чым уцякаць, была прыдумана версія, якая выратавала б у выпадку магчымага затрымання. Яна была падказана з'яўленнем тых, хто раней капаў акопы ля самае лініі фронту, але пад націскам савецкіх войскаў мусіў адтуль уцякаць. „Чаму б не выдаць сябе за такіх?" — разважае герой. Ён самы актыўны, дзейсны з трох таварышаў, з якімі разам ажыццяўляюць уцёкі. І таму, што амаль дасканала валодае нямецкай мовай, і таму, што ратавальная версія таксама належыць яму, і таму, што ні ў якіх выпадках не траціць разважлівасці, упэўненасці, імкнецца падбадзёрыць іншых.

Праблемы нацыянальнай ідэнтыфікацыі, стаўлення да іншых часта паўстаюць у творы. Галоўны герой цвёрда трымаецца свайго. Ён — беларус, усведамляе сябе прадстаўніком гэтага народа і нават у выпадках, калі было б, здавалася, выгадна назвацца іншым, падкрэслівае сваю нацыянальную прыналежнасць. Так, напрыклад, у размове з нямецкім салдатам, ад якога ў той момант залежала, ці ўдалымі будуць уцёкі. Той, пачуўшы нямецкую мову, пытае, ці не немец ён. „Не! Я — беларус", — адказ маладога беларуса быў катэгарычным.

Разважаючы між сабою пра немцаў, маладыя людзі робяць выснову, што тыя за апошні час, калі вайна павярнулася ў іх бок, моцна змяніліся. Гэта ўжо іншыя людзі. Іх нянавісць, пагарда да звезеных з усходу работнікаў раней не мелі межаў. Літовец Пэтэр з болем згадвае пра перанесеныя здзекі: „Калі мяне прывезлі сюды ў 1942 годзе і гналі ў арбайтсамт..., то па абодва бакі вуліцы стаялі немцы, старыя, маладыя, а нават дзеці, глядзелі на нас, як на малпаў, смяяліся, часта плявалі, а малыя дзеці падбягалі і давалі выспятка тым, якія ішлі бліжэй да тратуара. Нехта абсыпаў нас пяском". Людзі былі цалкам бяспраўнымі, не мелі ніякае мажлівасці пастаяць за сваю чалавечую годнасць.

Перад пагрозай фронту, які няўмольна набліжаецца, у многіх немцаў з'явілася разуменне, што гэта Гітлер давёў іх да бяды. Але нідзе не знойдзем сведчання, што ён рабіў усё не без іхнае падтрымкі, што гэта яны верылі і маліліся на свайго фюрэра.

Што да літоўцаў, то іх нацыянальная еднасць, узаемадапамога могуць быць прыкладам для іншых нацыянальнасцей. Між гэтых траіх якраз і быў адзін літовец. Таму сустрэчная мазурка накіравала іх у дом, дзе жылі ягоныя суплямённікі. „Калі Пэтэр загаварыў да іх па-літоўску, яны прынялі нас, як родных. Спачатку пачаставалі гарбатай, а пасля далі абед. Прыйшлі да іх знаёмыя літоўцы, прынеслі бутэльку гарэлкі і нас пачаставалі. Яны спявалі песні і па-літоўску, і па-беларуску". Апошняе асабліва кранае. Пашана і любоў выказана не толькі праз матэрыяльнае: накармілі, але і праз еднасць духоўную, праз песню, якая зрадняе сэрцы. А яшчэ ўлічана і тое, што з іх аднапляменнікам прыйшлі беларусы, жывучы з якімі побач, літоўцы вывучылі і іхнія песні.

Тыя ўцёкі мелі шчаслівы фінал. Вяртаецца туды, дзе яго былі шчыра рады бачыць. Размова найперш пра Лідку, сяброўку героя. Яна клапоціцца пра яго як пра свайго каханага. Хоць аўтар ні слова не гаворыць пра пачуцці, якія іх звязваюць. Усё між імі проста: маладыя людзі апынуліся далёка ад Радзімы, саграваюць адзін аднаго сваім цяплом, дапамагаюць адзін аднаму выжыць. Тут, у далёкай чужыне, гэта ўзаемная пяшчота стварае ілюзію хатняга жыцця, ілюзію роднага дома. Недарэмна ў пачатку другой часткі ўспамінаў сустракаем згадку пра зімовыя святы, Каляды, Новы год, што прайшлі ціха, па-дамашняму, якія „сустрэлі дома". Гэтая агаворка істотная, бо паказвае, як высока ўмеюць цаніць гэтыя птахі, адарваныя ад родных гнёздаў, хай часовае, хай няпэўнае, але такое мілае беларусу спакойнае жыццё.

Якімі б няпростымі былі тыя ўцёкі, усё ж намнога больш нацярпеліся нашы героі ад тых, каго не баяліся, каго чакалі — ад савецкіх вайскоўцаў, вызваліцеляў. Аўтар называе іх рускімі. Хоць, зразумела, што ў тым войску многа розных нацыянальнасцей. Гэта савецкія людзі, адурманеныя прапагандай, поўныя нянавісці, падазронасці. А яшчэ нявыхаваныя, бескультурныя, разбэшчаныя. Рабаўніцтва ў адносінах да немцаў для іх звычайная справа. Але забіраюць самыя неабходныя рэчы і ў вывезеных на працы людзей. Ды самае страшнае: яны ператварыліся ў дзікіх гвалтаўнікоў і забойцаў.

Тут і пачынаюцца для нашага героя сапраўдныя выпрабаванні, пакуты. Маленькі чалавек, ён нават і не думае пра супраціў. У яго забіраюць усё, што толькі кінецца ў вочы „вызваліцелям". Спачатку адзін з салдат забірае ягоныя боты з халявамі. Не вяртае, нават калі аказваюцца малымі. Хлопец не паспявае пашкадаваць пра гэтую страту, бо толькі што пачуў ад дзяншчыка капітана, „нейкага ўзбека ці таджыка":

працяг ☞ 10

## Журналісты з Беларусі

Група з 7 беларускіх і 7 украінскіх журналістаў пабывала ў Польшчы ў рамках рэалізацыі праекта „Ангажаванасць медыяў у будову адкрытага грамадства — польскі вопыт", арганізаванага Усходнееўрапейскім дэмакратычным цэнтрам. Пасля вучэбнай сустрэчы ў Варшаве раз'ехаліся яны па рэдакцыях лакальных сродкаў масавай інфармацыі. „Мэтай паездкі было перш за ўсё азнаямленне са спосабамі вядзення грамадскіх кампаній па вырашэнні канкрэтных пытанняў і стымуляванне грамадзянскай актыўнасці", — сказаў „Ніве" Дарыюш Кузяк, галоўны рэдактар штотыднёвіка „Tygodnik Siedlecki". Згаданая рэдакцыя прымала ў сябе Аляксандра Чугуева з газеты „Вячэрні Бабруйск" і Арцёма Сізінцава з партала orsha.eu.

Пётр Гічэля са штотыднёвіка „Tygodnik Siedlecki" сказаў, што польскія журналісты падзяліліся з калегамі з Беларусі практычным вопытам па ініцыяванні грамадзянскіх дзеянняў, іх рэалізацыі і папулярызацыі. Важную ролю адыгрывае шуканне актыўнага кантакту з чытачамі. Гэта дало магчымасць зверыць веды, умеласці і спосаб працы. „Нягледзячы на шматлікія розніцы, знайшлі мы таксама шмат падабенстваў, — сказаў Гічэля. — Гэта дае магчымасць узаемапазнання і з'яўляецца своеасаблівай прамоцыяй Польшчы і Беларусі. Вынікам праекта будзе цыкл публікацый на тэму набытага вопыту".



**Злева: Пётр Гічэля, Арцём Сізінцаў, Наталля Бімбірайтэ, Дарыюш Кузяк, Аляксандр Чугуеў і Адам Бобрык**

У выказванні для „Нівы" Аляксандр Чугуеў падзяліўся думкай, што, шукаючы месца СМІ ў развіцці грамадзянскіх ініцыятыў, знайшоў у Польшчы шмат станоўчых прыкладаў. Яго ўвагу асабліва прыцягнула ангажаванасць сродкаў масавай інфармацыі ў прасоўванне Вялікага аркестра святочнай дапамогі. „Самаакцыя — цудоўная і незвычайна карысная, — адзначыў ён. — Я пазнаёміўся з шэрагам лакальных дзеянняў. Думаю, што некаторыя і ў Беларусі мелі б рэзананс. За ініцыятывамі стаяць канкрэтныя людзі, але асновай з'яўляецца грамадская актыўнасць, якую можна стымуляваць, узбуджаць". Беларускі госць ацаніў, што ў Польшчы значна большая гатоўнасць да ўдзелу ў нізавых ініцыятывах. Палякам хапае добрых ідэй, але цяжэй ім атрымаць больш шырокі рэзананс. Бачны некаторыя змены, асабліва сярод маладога пакалення, якое становіцца больш мабільным. Самы шырокі рэзананс пакуль што выклікаюць акцыі па ахове натуральнага асяроддзя. „Задачай сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца як прапагандаванне станоўчых прыкладаў, так і ўказванне новых абласцей актыўнасці" — ацаніў Чугуеў.

Арцём Сізінцаў звярнуў увагу, што журналісты, каб быць эфектыўнымі, павінны ўлічваць мясцовыя асаблівасці і культурныя аспекты. Адной з важнейшых абласцей з'яўляецца мова. Аднак не заўсёды належным чынам ацэньваецца яе значэнне. Сізінцаў адзначыў, што партал, які ён прадстаўляе, з'яўляецца добрым прыкладам стаўлення да моўных чаканняў атрымальнікаў. У яго партале дзве моўныя версіі — беларуская і руская. Доступ да СМІ на роднай мове з'яўляецца важным элементам акдрытага грамадства. Гэта таксама свайго роду выклік для сучаснасці. **Адам БОБРЫК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі



# ПАЕЗДКІ І ТЭАТР ПРА КАПАННЕ БУЛЬБЫ

У Нарве маюць свае беларускія мерапрыемствы. Тут ад гадоў падымаюць тэму народных абрадаў і святаў. Сцэнарыі ўзнікаюць на аснове ўспамінаў дзядоў і бацькоў, якія разам са сваімі вучнямі апрацоўвае настаўніца Ніна Абрамюк. Пасля паказваюць іх у школе або на абрадавых конкурсах. Нашы сябры ідуць са сваімі мастацкімі падарункамі ў дом для састарэлых і ў вясковыя дамы культуры, каб суцешыць самотных людзей. Свае сцэнкі і дэкламацыі паказваюць у партнёрскіх школах:

— У нас ужо тры партнёрскія школы, — кажа Ігар Лукашук, намеснік дырэктара і заадно настаўнік беларускай мовы. — Гэта Гарадок, Беласток (праваслаўная школа) і бельская «тройка». Што гэта абазначае? Адказ просты: больш паездак і сустрэч з аднагодкамі. Дзеці любяць такія выклікі, яны адкрываюцца на новыя задумы, знаёмствы і супрацоўніцтва.

— Мы думаем таксама пра паездку для настаўнікаў, — дадае спадар Лукашук. — Хочам паехаць у Пуньск, да літоўцаў, каб прыгледзецца як там выглядае навучанне на роднай мове.

У час сустрэч з вучнямі малодшых класаў мы пачулі пра спектакль, прысвечаны капанню бульбы. Тут найпрыгажэйшая ідэя супольнай працы. Пры капанні бульбы людзі шмат размаўлялі, спявалі, а пасля працы ладзілі супольны пачастунак. Сучасныя людзі сумуюць па такой дзелавой талацэ, дзе найважнейшая ўзаемная дапамога і ахвота да супольных гутарак. Вучні з Нарвы прадэкламавалі нам шмат беларускіх вершаў, з якімі выступілі на «Паэтычным трохгалоссі». А ў чацвёртым класе, дзе шмат мудрых і засяроджаных вучняў, мы распавялі пра гісторыю «Зоркі» і ўдзел нараўскіх вучняў у нашых праектах і конкурсах. У школе ганарацца вучнямі якія пішуць у «Зорку».

**ЗОРКА**

## ПАН І РАБОТНІК

*(руская казка)*

Жыў-быў адзін пан. Ён быў надта скупы. Аднойчы прыйшоў да яго работнік і кажа:

— Вазьміце, пан, мяне на работу.

— А што ты ўмееш рабіць?

— Усё.

— Добра, — кажа пан, — вазьму цябе на работу. За сто рублёў у год. Згодны?

— Згодны, — кажа работнік.

Цэлы год працаваў работнік ад рання да вечара. Чысціў коней, насіў ваду і працаваў у полі. Праз год ён прыйшоў па зарплату:

— Заплаціце, пан.

Пашкадаваў пан грошай. Ён заплакаў.

— Навошта гэтыя слёзы? — здзівіўся работнік.

— Грошай шкада!

— Як жа так? Я цэлы год для вас працаваў.

— Можа неяк дагаворымся, — пачаў пан, — не магу я грошай раздаваць...

— Добра, — кажа работнік. — Тады прыходзьце да мяне на працу. Хопіць, калі тры дні ў мяне пашчыруеце.

«Тры дні — нямнога» — падумаў пан. Пайшоў пагаварыць яшчэ з жонкай. Жонка была згодна: «Тры дні — нямнога, ідзі парабі», — сказала.

Пайшоў пан да работніка на службу. Работнік паеў і лёг сабе спаць. Адзін бот закінуў у адзін кут, другі бот — у другі кут. Раніцай прачнуўся і крычыць да пана:

— Эй, работнік, дзе ты?! Падай мае боты!

Глядзіць пан — няма ботаў. Шукаў, шукаў не знайшоў. Пасля пытае: «А дзе яны?».

Усхваляваўся работнік і як не гукне на свайго слугу:

— Ах ты гультай! Не сорамна табе пытаць, дзе твайго пана боты? Ты, мабыць, іх не пачысціў...

Збянтэжыўся пан і кажа:

— Бяры свае грошы! Не хачу я больш у цябе працаваць!

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

## УВАГА КОНКУРС! № 49-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 13 снежня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Маленькія лапкі,**
**на лапках драпкі,**
**ціхенька ступае,**
**мышак пужае.**
**К....**

**Белая, лёгкая пярынка**
**ўпала на шчаку дзяўчынкі,**
**не сагрэла, а растала,**
**як слязінка выглядала.**
**С.....**

**Адказ на загадкі № 45-15: заяц, рака. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгрлі Вікторыя Раеўская з Бельска-Падляшскага і Вікторыя Баркоўская з Арэшкава. Віншуем!**

# БЕЖАНЦЫ І ЧУЖАЗЕМЦЫ Ў НАШЫХ ШКОЛАХ

У гэты годзе шмат гаворым і пішам пра бежанства 1915 года. Ва ўспамінах людзей, якія перажылі страшэнную, трагічную падзею, ёсць цёплыя, душэўныя моманты. Нашыя бежанцы запамяталі дабрыню і спагаду звычайных людзей, якія дапамагалі ім на чужыне. Нехта прынёс яду, іншы падараваў хустку, хтось з дзерава выразаў коніка для дзіцяці.

Такія ўспаміны вучаць як быць прыстойным чалавекам.

Сто гадоў пазней у нашых гарадах, мястэчках і вёсках з'віліся бежанцы з Украіны. Іх дзеці ходзяць у нашыя школы. І, што цікава, многія з іх вывучаюць беларускую мову.

Карына прыехала з Крывога Рога, што ва Украіне. Яна, як прыкладная вучаніца, села за першай партай.



Навучэнцы беларускай мовы з Кляшчэляў

фота Ганны КАНДРАЦЮК

Сшытак Карыны з Крывога Рогу

У яе сшытку бачу прыгожыя малюнкі і беларускія словы:

— Гэта мой улюбёны прадмет, — кажа Карына.

Падобны прыклад мы сустрэлі ў Кляшчэлях. Настаўніца беларускай мовы Ірэна Саевіч сярод сваіх выдатнікаў назвала трэцякласніка, у якога сірыйскія карані.

— Ён хоча ведаць як найбольш слоў, адразу пасля ўрока рашае хатнія задачы, — кажа настаўніца. — І галоўнае, ён заражае цікавасцю да мовы нашых дзяцей.

Вось як! Мы самі павінны з уражлівасцю і адкрытасцю глядзець на сяброў, якія прыехалі да нас з далёкіх краін. Мы, нашчадкі бежанцаў, маем таксама гістарычны доўг. Што трэба рабіць? Для нас, вучняў, трэба паказаць сваё зацікаўленне звычаямі і краінамі новых сяброў. Распытаць пра іх школу, пра тое як праводзілі час пасля ўрокаў, пра любімыя стравы і зацікаўленні.

Варта запрасіць сваіх новых сяброў на імяніны ці іншае сямейнае свята. А калі пачуеце, што да такой асобы нехта ставіцца агрэсіўна і брыдкасловіць, тады трэба даць адпор і заступіцца цэлым класам.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа



### Як пісьменнікам стацца?

— Як мне ў далейшым жыць? —
Сын бацьку стаў пытацца.—
Скажы, што трэба рабіць,
Каб пісьменнікам стацца?

— Трэба вучыцца, сынок,
Паглыбляць свае веды.
— Я ў пісанні знаток,
Іду пісьменніцкім следам.

### Ці молішся перад ядою?

Настаўнік божага закону
Звярнуўся да вучня Лявона:
— Маё пытанне такое :)
Ці молішся перад ядою?

— Няма такой патрэбы
Прасіць дапамогі ў небе.
Мая матуля Варвара
Здаровую яду варыць.

*Аляксандра РАМАНЮК*
*Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія Беластоку*

### Малітва

*Яна кароткая або доўгая.*
*Заўсёды мае сваю гісторыю.*
*У каго няма хлеба, моліцца,*
*каб мець.*
*Хто хворы, моліцца,*
*каб стаць здаровым.*
*А мая малітва кароткая,*
*Перапоўненая любоўю да Бога.*

*Маліся заўсёды і за ўсіх.*
*Іншыя памоляцца за цябе.*

*Бог удзячны за кожную малітву.*
*Ён усіх слухае.*

*Міхал ЮРЧУК*
*ПШ у Міхалове*

### Колеры

*Чорна-белы свет...*
*Чорны сабачка бяжыць*
*і бяжыць.*
*Белы коцік ляжыць,*
*малачка просіць.*
*Чорны Мішка ідзе дахаты,*
*дарогі не бачыць.*
*Белы месяц на шчасце выходзіць,*
*І падарожнікам памагае свет*
*ад маны адрозніць.*

*Караліна ПАГАЖЭЛЬСКАЯ*
*ПШ у Міхалове*

### Беларусь

*Даўным-даўно Дзед Мароз*
*Чытаў дзеткам казкі.*
*Цяпер танцуе, спявае*
*І падарункі раздае.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 49_15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45:**

Майл, кіт, тасьма, сорт, планшэт, полы, актыў, мяў. Кропка, сорт, тон, марш, стэп, том, ля, актыў.

Узнагароды, каляровыя гелевыя аўтаручкі, выйгралі **Оля Чабай**, **Аня Рушук** з Новага Корніна, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Мартына Лукша** з Нараўкі, **Вікторыя Раеўская** з Бельска-Падляшскага, **Матэвуш Красько**, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Габрыела Кіяшка**, **Аліцыя Костра** з Шудзялава. Віншуем!



# У арыштанцкіх ротах вайны

— Гэта даваенная песня, — тлумачыць Марыя Кулакоўская з дому Краскевіч з Крушынян, — пры санацыі яе спявалі. Дзяўчына з хлопцам хадзіла, ён яе здрадзіў, яна яго забіла і таму яе судзілі.

*В голове моей мозг иссыхает, сердце кровью моё облилось,*
*За измену неверного друга пострадать, видно, время пришло.*
*Завтра, завтра я буду судиться, на подсудной скамейке сидеть,*
*С недовольной печальной душою на присяжных я буду глядеть.*
*Прочитают моё преступление, присяжные тогда отойдут*
*И дадут года два с половиной, в арестантские роты сошлют.*
*Поведут меня пыльной дорогой с двунаментом и взад, и вперёд*
*И посадят меня в одиночку за высокой тюремной стеной.*
*Одиночка моя, одиночка, до чего ж ты меня довела,*
*Молодецкую жизнь загубила, в арестантские роты свела.*
*В одиночке сидеть очень скучно, так я буду с тоски умирать,*
*Сердце кровью моей обольётся, как я буду друзей вспоминать.*
*Знать, умру на тюремной постели, похоронят меня кое-как,*
*І родные о том не узнают, не придёт, не поплачется мать.*
*Только буйные ветры завоют, загрохочет гроза посильней,*
*Только птички одны заперхают над несчастной могилой моей.*
*Ах вы вольные птички пойте, пойте всё веселей, веселей,*
*И вы Богу страницу откройте об несчастной жизни моей.*

### *— Як жылося пры санацыі, — пытаю маю 84-гадовую субяседніцу.*

— Мне было тады сем гадоў, таму помню няшмат. У 1938 годзе пайшла я ў школу, а ў 1939 годзе выбухла вайна. Усяляк жылося. Хто меў больш зямлі, той жыў, а ў каго было мала, та ўсяляк бывала. Вясною не было ні хлеба, ні бульбы. Хадзілі да больш багатых, прасілі, каб хто даў, а потым адраблялі. Да нас таксама прыходзілі. Гаспадарылі мы тады на 40 гектарах „надзяловай” і купленай зямлі. Трэба было гэта неяк абрабіць. Працавалі ўсе разам: татка, дзед, два браты, маці і дзве сястры. Быў яшчэ парабак, які дапамагаў пры жывіне і пры конях. Хто не хацеў рабіць і хто не меў на чым рабіць, таму жылося дрэнна. Бацька на санацыю не наракаў. Ён шыў шапкі, боты, сандалі, займаўся рымарствам і сталяркай. Рабіў вупраж коням, бочкі, дзежкі, ражачкі, балейкі, а яшчэ пчол трымаў. Добры грош давалі гэтыя пчолы. За мёд можна было набыць усё, нават на масла абмяняць. Бацька зарабляў грошы, усё нам купляў: і адзенне, і абутак. Маці была толькі гаспадыняй, займалася сваімі абавязкамі, варыла, прала, часам ад стомы засынала за калаўроткам.

### *— А потым прыйшлі саветы...*

— У 1939 годзе раптам праз вёску пачалі ісці савецкія танкі і аўтамабілі. Ехалі ад паўднёвай, баброўніцкай шашы на Крынкі, тры дні безупынна. Да Райкі, маёй старэйшай сястры, прыйшла Пашка і сказала ісці сустракаць рускіх. Пайшлі кветкі рваць, вянкі віць. Кветкі ім давалі, кідалі на аўтамабілі. Пры крушынянскім крыжы доўгія вянкі рабілі. Адна стане на адзін бок вуліцы, другая на другі і так вешаюць на пад'язджаючы аўтамабіль гэтыя вянкі. А мы, малыя, як толькі забурчыць матор з-за гары, бяжым праз аселіцу, праз агароды, на Макале, і там сядзім, пакуль танкі не пяройдуць, а тады хутчэй дахаты. Саветы — свае людзі — душылі і мучылі, зямлю пазабіралі, абклалі падаткамі. Аднойчы ў крушынянскі сельсавет прывялі бабу са Скраблякоў за тое, што падаткаў не плаціла. Увайшла ў кабінет, глядзіць, а на сцяне Сталін, і кажа: „Ах, Сталінку, а дзякуй табе, што ты нас асвабадзіў ад хлеба і ад бульбы”. Сваю ўладу ўстанавілі, школы паадчынялі, у сельсаветах паставілі вясковых начальнікаў, якія ўласнаручна дабівалі вёску. Потым немцы іх усіх арыштавалі, забралі ў вязніцу ў Бухалова пад Саколкай. Пасадзілі там таксама татарына, які самагонку гнаў. Хаця надта мучылі, татка падпісаўся за вызваленне іх усіх. Адпусцілі амаль усіх, толькі галоўны старшыня сельсавета, малады, халасцяк, не вярнуўся ніколі. У адной з вясковых хат зладзілі кааператыўную краму. Аднойчы цукеркі прывезлі, такія квадратныя падушачкі з начынкай. Давалі ўсім па паўкілаграма ці па цэлым. Пад дзвярамі выстраілася вялікая чарга пакупнікоў, якіх упускаў наш сусед. Цукеркі былі недарагія, а ў мяне рыхтык столькі грошай знайшлося. Я пад руку яму ўлезла і купіла гэтых цукерак. У 1941 годзе нас ужо ў Сібір адпраўлялі. У панядзелак мелі вывезці, а ў нядзелю вайна выбухла і мы засталіся. У пятніцу паспелі забраць дзве сям'і: Пятэльскіх — па-вясковаму званых Валеркамі, за тое, што іх сын Эдзік пры санацыі служыў у паліцыі. Сына не вывезлі таму, што недзе схаваўся, а яго бацькі ўжо ніколі не вярнуліся. Талькоўскіх забралі за ўдаванне немцам. Вярнуўшыся з Нямеччыны, Талькоўскі здаўся сам і яго сям'ю адпусцілі назад. Ва ўзгаданы панядзелак планавалі вывезці яшчэ восем ці дзевяць сем'яў, у тым ліку Кандуктараў, Кірмуцёў і Дзенісоў.



Злева: Габрынця Пятэльская, Генэк Малішэўскі, Геня Пятэльская, Яня Горыш, Анатоль Зеляпуха, Марыя Краскевіч-Кулакоўская

У вёсцы часта праходзілі вайсковыя манеўры. Помню, наедзе салдат, у нас таксама начавалі. Сушанай рыбай пахлі. А яшчэ елі гарохавую кашу, вараную з сухіх гарохавых кубікаў. Хлеба ў нас прасіць ім не дазвалялі, надта дысцыпліны трымаліся. Толькі часам далікатна пыталіся ці хазяюшка не магла б ім лусту недзе пры дзвярах пакласці пацішу, каб ніхто не бачыў.

### *— Чаму так добра віталі саветаў?*

— Людзі былі ўсялякія. Бедныя думалі, што вялікае збаўленне ім прыйшло, але потым тое збаўленне ўсім па задніцы дало роўна. Багатыя іх баяліся. Мы таксама былі багатыя, але Райка мусіла ісці іх сустракаць. Баялася, што калі не пойдзе, арыштуюць. Не помню ці татары таксама хадзілі іх сустракаць. Жыдоў у вёсцы не было, толькі адна жыдоўская сям'я на зіму прыязджала. Напэўна не сустракалі іх католікі.

### *— Католікі не сустракалі?*

— Нашто ж ім саветы. Палякі вялікія патрыёты, яны „за нашу Польшчу”, а нашыя, хаця і не хацелі, ішлі сустракаць. Сям'я Янкевічаў бедная была, адну худую кабылу трымалі з вуздэчкай з вяровачак. Калі польскія агенты прыйшлі коней і вазы на вайну скупляць, Людвіся Янкевіч прывяла гэтую кабылу і сказала: „Няхай будзе ў карысць нашай Польшчы”. Агент даў ёй за гэта самую лепшую цану. Брата Людвісі ўзялі з сабой, каб дапамагаў гнаць купленых коней. Убачыўшы савецкія танкі, выйшла Людвіся на вуліцу і заплакала: „А Божа ж мой, і браціка няма, і Польскі няма”.

Нашы былі за кожным. Яны кожнаму былі добрыя. Немец, калі ўступіў, то беларусаў паважаў, не біў, не караў. А можа і біў, і караў, але польскім прычапіў „Р”, жыдам — зорку, а беларусам — нічога. Мабыць таму, што тады ў іх не было яшчэ сваёй управы. Яны былі нейтральныя, вайсрусы — так іх немец называў. У вёсцы і палякаў не меціл, толькі калі на работы папалі, тады ўжо так. З вёскі на прымусовую працу вывезлі шмат людзей. Спачатку забралі іх у Крынкі, потым у Саколку, а там чыгункай у Прусію. Сястра Ларыса таксама туды паехала. Запісалі і Райку, але яна была хворая і бацька так сарганізаваў, што ў месца Райкі солтыс адправіў савецкую медсястру.

Адступаючыя з усходу немцы палілі за сабой усе вёскі, а людзей гналі на захад. Потым па вёсках іх сялілі. Такім чынам у Крушыняны папалі пяць ці шэсць сем'яў з Беларусі. Я сябравала з дзвюма дзяўчынкамі гэтых бежанцаў. Адну і другую звалі Валя. У Чыжэўскіх пустая хата стаяла, там пасялілі дзве сям'і, у солтыса Талькоўскага — адну, у Кірмуцёў была сям'я, у Трубэцкага адзін мужчына жыў, у Пятровічаў — муж з жонкай, краўцы, абшывалі вёску і тым зараблялі на хлеб. І да Васіля Жонавага таксама прыехалі. Плакалі. Іх маці разам з адной дачкой засталася, не хацела з немцамі ўцякаць. А яны баяліся, што за гэта маглі яе забіць. Прывялі з сабой карову, добрая была, шмат малака давала. Немцы ім памагалі, восыпку карове давалі. У бежанцаў Жонавага былі два хлопчыкі Ванька і Пеця. Аднойчы зайшла я да іх у госці. Маці наварыла бульбы, наліла туды смятаны, натаўкла кашы, а хлопчыкі празываліся: „Пецька-пятух на завалінцы пратух, два яечка знёс, мацеры аднёс, маці ні брала, Пецьку за вушы драла”

### *— Вы з бежанцамі па-руску ці па-беларуску размаўлялі?*

— Яны гаварылі па-беларуску. Тады, да вайны, у Беларусі гаварылі па-беларуску. Толькі па вайне, калі рускія пад сябе іх перанялі, усё на рускай мове пайшло. Нават як саветы ўступілі, то ў школе вучылі па-беларуску. Першы і другі класы былі па-беларуску, а трэці — па-руску.

### *— Ці бежанцы тут з вамі засталіся?*

— У 1944 годзе саветы немцаў выгналі. Бежанцы прыжыліся, бульбу пасадзілі. Калі яе капалі, паўстала ўжо мяжа і іх прымусілі да выезду. Невядома ці вярнуліся на бацькаўшчыну, ці недзе пад недалёкую Бераставіцу. Пазабіралі ўсіх. Помню, гаварылі што недзе ў Грыбаўцах у час вайны немцы адну бабу-бежанку застрэлілі. Мясцовыя знайшлі яе цела, а на ім яшчэ жывое, паўзучае немаўля. Узялі на выхаванне, а потым нават тое дзіця ў Савецкі Саюз забралі.

Іаанна ЧАБАН

# Бежанства ў беларускім космасе (2)

**У днях 12-13 лістапада ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры прайшла навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Бежанства 1915 года ў гісторыі і традыцыі беларусаў Падляшша”, лджаная Беларускім гістарычным таварыствам. У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі мінуўшчыны з Расіі, Латвіі, Беларусі і Польшчы...**


Генадзь Семянчук


Сяргей Токць


Віталь Карнялюк


Дарафей Фіёнік


Анэта Прымака-Оніщк


Ала Ціханава

**Генадзь Семянчук** з Гродна развагажаў, ці эвакуацыю маёмасці з тэрыторыі Гродзенскай губерні разглядаць як эвакуацыю менавіта, ці як рабунак. Маюцца на ўвазе гісторыка-культурныя каштоўнасці. Дакладчык падкрэсліў, што найбольш сур'ёзна праблематыкай эвакуацыі з Падляшша займаўся па сутнасці толькі Дарафей Фіёнік. Іншыя вучоныя кранаілі гэтую тэматыку фрагментарна, выпадкова і ў кантэксце страт польскай культурнай спадчыны. Эвакуацыя адбывалася па загадзе імператара. Ужо ў лютым 1914 года, амаль паўгода да выбуху вайны, маскоўскія ўлады Праваслаўнай царквы выпусцілі дырэктыву пра эвакуацыю царкоўных прадметаў. Звярталася ўвагу на неабходнасць вывазу мошчаў і цудадзейных абразоў, царкоўнага начыння і званоў, гістарычных, археалагічных і мастацкіх помнікаў, старажытных рукапісаў, канцылярскіх дакументаў, маёмасных актаў, метрычных кніг. Па сутнасці эвакуацыі падлягала ўся прыходская маёмасць. А калі чаго немагчыма было б эвакуіраваць, то гэта, асабліва дакументы, трэба было знішчыць. Асаблівая ўвага звярталася на званы, дзе ў царскім указе тлумачылася, што іх трэба забіраць, каб вораг не мог вырабляць з іх снарадаў супраць братоў у веры. Званы былі стратэгічным матэрыялам і яны вывозіліся ў першую чаргу. І канчатковым пунктам вывазу званоў быў маскоўскі артылерыйскі склад; большасць з іх загінула. Калі мова пра абразы, якія нашы продкі лічылі цудатворнымі, дык большасць з іх недзе знікла, у тым ліку абраз Супрасльскай іконы Багародзіцы, Краснастоцкай, Каложскай. Вярнуўся абраз Жыровіцкай іконы Багамацеры. Не вярнуліся архіўныя дакументы ранейшага, уніяцкага перыяду. Дарэчы, розныя ведамствы прысылалі свае загады аб эвакуацыі апякаемых тымі ведамствамі каштоўнасцей. Фонды расійскіх архіваў найбольш папоўніліся менавіта ў выніку гэтай вывазкі. Гэтая эвакуацыя па сутнасці пераўтварылася ў рабунак. У 1921 годзе між урадамі Польшчы, савецкай Расіі і Украіны была падпісана дамова аб вяртанні гісторыка-культурных каштоўнасцей. Польскі бок дабіўся прызнання Расіяй паняцця польскай культурнай спадчыны ў новых межах Рэчы Паспалітай. А саветы ўвялі сваё паняцце пра гісторыка-культурныя каштоўнасці беларускага і ўкраінскага народаў і тыя каштоўнасці палічылі ўжо ўласнасцю ўсяго савецкага народа і іх не вярталі. У Беларусі спробы інвентарызацыі вывезенай маёмасці ініцыяваліся два разы: у 1924-1927 гадах і ў пачатку 1990-х гадоў, але не дабіліся ніякіх станоўчых вынікаў ад расійскага боку.

**Сяргей Токць** з Гродна прывёў падзеі бежанства ў мікрагістарычным вымярэнні на прыкладзе Скідзельскай воласці. Воласць напярэдадні Першай сусветнай вайны налічвала каля дванаццаці тысяч насельніцтва. Дакументаў, якія б краналі сам пачатак бежанства, захавалася мала; у многіх сем'яў захаваліся апісанні маёмасці, вельмі падрабязныя, з пералікам лыжак і відэльцаў нават. Ці быў прымус з боку вайскоўцаў, зараз складана меркаваць, аднак уплыў прапаганды быў важкі. Каля дзевяноста адсоткаў насельніцтва воласці складалі праваслаўныя, яны дысцыплінавана паслухалі галасу ўлады і накіраваліся ў бежанства; каталікі і яўрэі асталіся. Апынуліся яны ў самых розных кутках Расійскай імперыі. Бежанства было цяжкім выпрабаваннем для агулу насельніцтва, але асобным адзінкам стварыла шанс лепшага жыццёвага ўладкавання. Не ўсе вярнуліся. Паводле польскага перапісу ад 1921 года насельніцтва воласці складала каля шасці тысяч чалавек. Як паведамлялася ў паліцыйнай справаздачы, бежанцы не мелі дзе жыць, не мелі чаго есці, шмат людзей паміралa з голаду.

**Віталь Карнялюк** з Гродна засярodзіўся на наступствах бежанства для насельніцтва Гродзеншчыны. Працэс разгляду гэтай падзеі ў ходзе, нейкія заключныя высновы яшчэ рана выносіць, можна толькі гаварыць пра нейкія прамежкавыя думкі. У правядзенне падзеі былі ўключаны розныя суб'екты. Важнай грамадскай праявай таго часу была міласэрнасць, якая ахапіла розныя слаі тагачаснага грамадства. У агульнасці бежанцы апынуліся ў новай дзяржаве, па-за сур'ёзнай увагай палітыкаў рознага накірунку.

**Дарафей Фіёнік** з Бельска-Падляшскага расказаў пра мерапрыемствы, лджаныя ягоным Музеем малой айчыны з нагоды сотай гадавіны бежанства. У іх ліку назваў ён у першую чаргу ранейшую, зладжаную ў 1995 годзе выставу ў бельскай ратушы „Бежанства — невядомы эксодус”. Была яна першай ластаўкай шырэйшага зацікаўлення тэмай. З таго часу пачалося вывучэнне бежанства з жывых крыніц; тады жыло яшчэ шмат людзей, якія самі прайшлі бежанства. Былі лджаны, у супрацоўніцтве з мясцовымі беларускімі суб'ектамі, летнікі, бадай шэсць ці сем, дзе моладзь беларускіх ліцэяў запісала каля ста пяцідзесяці ўспамінаў; зараз музей завяршае лічбавізацыю гэтага матэрыялу. Дарафей Фіёнік падкрэсліў ролю Віталя Скалабана з Беларусі, які бежанства ўключыў у навуковы абарот. Да яго вывучэннем бежанства, гэтым перыядам гісторыі беларускага народа, па сутнасці ніхто сур'ёзна не займаўся. Дакладчык сказаў, што Віталь Скалабан быў ягоным прафесарам у Мінскім універсітэце культуры і пазнаёміў з архіўнымі матэрыяламі з расійскіх фондаў. Сабраныя ў ходзе згаданых летнікаў успаміны друкаваліся ў „Ніве” і „Бельскім гостінцы”. Гэтыя матэрыялы былі таксама агучаны ў сямі манаграфіях паасобных мясцовасцей, аўтарства Рыгора Сасны і Дарафея Фіёніка. Сёлета музей праводзіў у бельскім Белліцэі адукацыйную праграму „Памяць бежанства”, быў арганізаваны адмысловы летнік у Пухлах, вынікі якога былі агучаны ў адмысловай газеце. У Дубяжыне каля Бельска прайшоў адмысловы разьбярскі пленэр з удзелам мастакоў з Камянца, Кобрына, Гродна і мясцовых, вынікам якога была адмысловая кампазіцыя. Тады ў Дубяжыне адбылася вялікая ўрачыстасць. Была зладжана, пры дапамозе шматлікіх устаноў, маштабная ўрачыстасць сотай гадавіны Першай сусветнай вайны, бо менавіта сто гадоў таму яна завітала на Падляшша. У рамках гэтага мерапрыемства былі малебны на ваенных могілках у Ягуштове і Студзіводах, была рэканструкцыя бежанства і бітвы пад Бельскам з удзелам каля дзвюх тысяч асоб. Даклад быў ілюстраваны прысвечанымі тэме бежанства тэлефільмамі.

**Анэта Прымака-Оніщк** запрэзентавала прысвечаны бежанству партал свайго аўтарства. Да тэмы бежанства дакладчыцу прывялі ўспаміны ейнай бабулі і ў 2012 годзе яна ўсур'ёз узялася за гэтую праблему. Бо ў шырокай грамадскай прасторы тэмы бежанства не было. Аўтарка задумала раскрыць тыя эмоцыі ад бежанства, якія захаваліся ў грамадскай памяці і пры нагодзе сабраць больш звестак. Старонка паявілася ў лютым 2014 года і выклікала вельмі ажыўлены водгук, яна стала свайго роду завязкай своеасаблівай „бежанскай” грамадскасці. Адгукнуліся людзі з розных мясцовасцей, якія прыгадалі, што бежанства закранула іхніх продкаў. Яны выйшлі з новымі адмысловымі ініцыятывамі. Напрыклад, партал прабудзіў прыдушаныя гістарычнымі падзеямі ўспаміны бежанства ў нашчадкаў колішніх жыхароў Холмшчыны і там быў зладжаны адмысловы матацыклавы рэйд. Белавежскі нацыянальны парк таксама наладзіў выстаўку, прысвечаную бежанству. Ды і сам партал мае быць свайго роду захавальнікам памяці пра тыя падзеі, якія ўсё ж такі глыбока кранулі нашу духоўнасць.

**Ала Ціханава** і **Ялена Ліндэ** з Ніжняга Ноўгарада запрэзентавалі сваю старонку bezhentsy-pmv.com, прысвечаную гэтай падзеі ў межах колішняй Ніжагародскай губерні. У дакладзе Ала Ціханава паведаміла, што сёння там пражывае каля дзесяці тысяч людзей, якіх продкі выводзіліся з Беласточчыны. Паводле ацэнак расійскіх гісторыкаў, у бежанства ў тыдавыя губерні Расійскай імперыі прыбыло не менш пяці мільёнаў чалавек. У Ніжагародскай губерні, паводле сабраных на сённяшні момант звестак, прыбыло каля шасцідзесяці пяці тысяч чалавек, але магчыма, што іх было значна больш. Прыбылі яны туды галоўным чынам з Гродзенскай і Ковенскай губерняў ды Рыгі. І даволі знамянальны факт, што сённяшнія патомкі тых людзей амаль нічога пра бежанства не ведаюць. Сама дакладчыца, якая таксама выводзіцца з бежанцаў, ставіць сабе задачу вярнуць памяць пра тую падзею ды скласці спісак тых людзей, што іміграваліі ў Ніжагародзеншчыну. І тамашнія даследчыцы атрымліваюць водгукі на сваю працу. Эвакуіраваліся не толькі людзі, але і цэлыя прадпрыемствы, іх у губерню трапіла каля трыццаці, у тым ліку рыжскі завод дызельных рухавікоў „Фельзер” ды варшаўскі палітэхнічны інстытут, на базе якога развілося тамашняе вышэйшае школьніцтва — сама менш пяць вузаў; да Першай сусветнай вайны ў Ніжнім Ноўгарадзе не было вышэйшых навучальных устаноў, горад найбольш славіўся сваім кірмашом. Бежанцы з Гродзенскай губерні прыбывалі спярша ў Оршу, а адтуль прыязджалі цягнікамі, на станцыях ладзіліся забяспечальныя пункты, дзе бежанцы атрымлівалі не толькі харчаванне, але і вопратку; апошні этап некаторыя адольвалі параходамі. Маштаб мерапрыемства быў агромны і станавіўся хаатычным, не ўсяго хапала. Губернатар атрымліваў з Пецярбурга паведамленні, якія групы бежанцаў напраўляюцца ў губерню і паводле гэтага губернатар загадзя размяркоўваў мігрантаў, якім на месцах рыхтавалі жыллё і харчаванне. Не ва ўсіх бежанцаў былі дакументы, гаварылі яны на іншай чым мясцовае насельніцтва мове. І вось таму найцяжэй было знайсці работу людзям з інтэлектуальнай падрыхтоўкай, а гэта, у сваю чаргу, патрабавала павелічэння пайка дзеля ўтрымання сям'і. Вялікую работу ў прыманні бежанцаў выканала Праваслаўная царква. Таксама дваранства паставілася да справы вельмі ініцыятыўна, не „бегла спераду поезда”, адгадваючы пажаданні ўлад, толькі самі людзі арганізавалі прыём перасяленцаў. Бежанцы ў губерню сталі масава прыязджаць у жніўні 1915 года і ўжо на той час там працаваў Тацянінскі камітэт. З канца жніўня 1915 года стаў дзейнічаць закон, які вызначаў месца бежанцаў у грамадстве, напрыклад, размер дзяржаўнай грашовай дапамогі. Усё ж такі людзі, якія на сваёй радзіме мелі нейкую маёмасць, на новым месцы станавіліся несамастойнымі, трацілі свой грамадскі статус. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года становішча бежанцаў мяняецца. І ў верасні таго ж года ў Маскве адбываецца першы з'езд беларускіх бежанцаў, там ужо на парадку дня ставілася пытанне рээвакуацыі бежанцаў, бо пра гэта думаў ужо і Часовы ўрад. Было пытанне ідэнтыфікацыі беларусаў і адказ, што беларусамі з'яўляюцца бежанцы з Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў любога веравызнання. Найгоршая сітуацыя для бежанцаў з'явілася з прыходам да ўлады бальшавікоў — тады бежанцаў зраўнялі ў правах з мясцовым насельніцтвам. Адымалася ім дапамога, а паколькі працавала толькі трэць з іх, тады іх сітуацыя стала на грані выжывання. Работы не было, не было харчоў, мужчын захаплівалі ў Чырвоную Армію. Бежанцы сталі масава марыць пра вяртанне на радзіму. Трэба было акрэсліць сваю дзяржаўнасць і здаралася так, што той, хто дэклараваў нерасійскае грамадзянства, станавіўся па-за законам, у яго не было на той час ніякіх правоў. І многія з іх не змаглі выехаць па чыста фармальных прычынах, яны не па сваёй волі асталіся ў Расіі.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

5 ☞ працяг

# Паводле ўспамінаў Дзмітрыя Шатыловіча

— Товарыш капытан, вывэсты ево і расстрэлят?

Паводзіны „таварыша капітана" ўражваюць непрыхаваным хамствам. Ён пачуваецца гаспадаром жыцця, у ягоных руках права расстрэльваць без усялякага суда. Але іграе ролю выхаванага чалавека, якая ў такой сітуацыі выглядае верхам цынізму. Выкшталцоным садызмам патыхае ад ветлівага па змесце пытання: „Можете ли вы подарить мне этот дневник?". Ведае, што запярэчыць гаспадар дзённіка ніколі не адважыцца, хоць яму вельмі шкада сваіх запісаў. Прагледзеўшы дакументы, пасведчанні пра заканчэнні розных класаў пачатковай польскай і сярэдняй беларускай школ, спраўдзіўшы дату нараджэння, палітрук „выпускаў іх з рук на падлогу". Не вяртаў, не клаў на стол, а кідаў пад ногі, быццам непатрэбнае смецце. А чаго вартае ягонае павучанне хлопцу:

— Вы знаете, почему я к вам придирался? Не знаете? Ох, какой вы недогадливый! Вы же знаете, что здесь многие солдаты уже года два-три не жили со своими супругами, а вы сидели здесь с девушкой и только их раздражали... Я вынужден был навести с вами порядок.

Ірэшце ён жа забірае ў героя ягоную каханую дзяўчыну. Проста прыказваюць усім ісці далей, а ёй застацца. І яны, бяспраўныя, вымушаны моўчкі падпарадкавацца. Роспачу вее ад непрамоўленага пытання: „Было нам вельмі непрыемна, але што мы маглі зрабіць у такой сітуацыі?". Калі аўтамабіль з новым гаспадаром дзяўчыны дагнаў іх па дарозе, той ласкава дазваляе развітацца. Такая вось праява „гуманізму" савецкага капітана. Ізноў усё ўспрымаецца моўчкі. Адзінае, што можа дазволіць сабе дзяўчына, — бездапаможныя слёзы роспачы ў вачах. Яна ператваралася ў жывы тавар, за які нават расплачвацца непатрэбна. Яе каханы толькі ціха самоціцца пра сябе: „Як мне шкада было беднай Лідкі! І хто з нас думаў, што такое ў нас будзе развітанне? І куды ён павёз яе? Ці яна яму так спадабалася, што забраў яе для сябе". Думкі пра дзяўчыну будуць яшчэ неаднойчы вярэдзіць сэрца. Асабліва таму, што такія паводзіны савецкіх вайскоўцаў сталіся прыкраю, балючаю неспадзеўкай. Таму, што не пакідае пачуццё знявагі: „Я... быў засмучаны, што ў такі ганебны спосаб, супраць яе жаданняў, савецкі афіцэр забраў дзесь Лідку. Я ніколі не прадчуваў, што можа нешта такое здарыцца".

Абраза, прыніжэнне чалавечай годнасці, знявага жаночага гонару — звычайная справа для пераможцаў, не абцяжараных маральнымі прынцыпамі. Пазней хлопцы нават парадуюцца, што Лідка, прыгажэйшая за іншых дзяўчат, дасталася афіцэру. Бо іх спадарожніц чакала горшая доля: у дарозе іх забіраюць п'яныя салдаты. На здзек і гвалт.

Многія немцы, што памяталі падзеі Першай сусветнай вайны, вырашылі не ўцякаць ад савецкага войска. Так, гаспадар галоўнага героя разважае: „Куды мне ўцякаць зімой?.. Я памятаю расейцаў з 1914 году, калі яны на коратка ўвайшлі ва Усходнюю Прусію. Яны вельмі добрыя людзі. Нікому яны тады крыўды не зрабілі". Як жа памыліўся гэты пажылы немец. Давялося не толькі вытрываць абразы, здзекі, грабеж, але і страціць жыццё. Яго расстраляюць, як і многіх, ні ў чым не вінаватых мірных людзей.

У гэтым эпізодзе на першы план выходзіць не герой, малады хлопец-работнік, а аўтар, што глядзіць на падзеі з вышыні гадоў. Бо ў тым часе ён і сам не ведаў, што ўяўляюць сабою савецкія салдаты. У аўтарскіх развагах чуваць не столькі імкненне апраўдаць зверствы, але разабрацца ў прычынах нялюдскасці пераможцаў: „Немцы і расейцы за гэты час моцна змяніліся. Нямецкія зверствы ў Расеі і ў іншых рэспубліках СССР выклікалі ў савецкіх салдат жаданне помсты зусім нявінным немцам, нават старым і жанчынам. І ў адных, і ў другіх сумленне змянілі ідэалогія і ўмовы жыцця".

Тым часам шлях герояў па дарогах вайны працягваўся. Шмат давялося ім перажыць, многа разоў быць на краі пагібелі. Чалавек звыкаецца нават з самым страшным: „Мы так прывыклі да віду трупаў, што амаль не звярталі ўжо ўвагі на іх". Але гэта смерці чужых, невядомых людзей. Калі ж на вачах гіне іх добры знаёмы, сябар па няволі, тады адчуванне зусім іншае. Цяжка зразумець, чым кіраваўся савецкі вайсковец, які ехаў у машыне насустрач знаёмым нашых герояў. „Даведаўшыся, што Коля паходзіць з вёскі з-пад Вінніцы, ён без слова дастаў наган і застрэліў украінца, сеў у машыну і паехаў". Відаць, не абышлося тут без навязанае савецкай прапагандай нянавісці рускіх да тых, каго яны называюць бандэраўцамі. Наогул, праўда, адлюстраваная ў гэтым творы цалкам супярэчыць таму ідэальнаму вобразу савецкага салдата-вызваліцеля, на якой выхоўваліся многія пакаленні.

Герой успамінаў інстынктыўна адчувае, што патрэбна рабіць дзеля выратавання. Умее зрабіць мо адзіна мажлівы, правільны ў пэўнай сітуацыі выбар, каб не загінуць. Смерць увесь час ідзе следам, побач. Але ён шчаслівы, удачлівы. Хай нават вытрымаў мноства страт, але ўсё ж выжыў. Гэта было галоўным у тыя страшныя часы.

У творы асэнсоўваецца становішча асобы, увесьчасна залежнай ад розных абставін, чалавека, які імкнецца выжыць у тым страшным коле знішчэння, здзекаў, якое сціскаецца, але якое няздольнае перамагчы наканаванае менавіта яму — выжыць. Герой успамінаў беларускага пісьменніка Дзмітрыя Шатыловіча з кагорты класічнага тыпу — маленькі чалавек, які проста хоча жыць. На фоне вялікіх гістарычных падзей ягоная прыватная гісторыя ўражвае дакладнасцю апісання, інтымнасцю, цікавым поглядам на людзей і жорсткі свет вайны, у якім яны апынуліся.

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ, Гродна**




Падарожжы заўсёды былі добрым спосабам паглядзець і пазнаць наваколле, даведацца пра моду мінулых гадоў, паслухаць і пабачыць, што хто ўмеў і рабіў. Асабліва карысным такі спосаб будзе для больш шчыльнага знаёмства з мінулым роднага краю незалежна нават ад таго, па тэрыторыі якой дзяржавы праходзіць маршрут вандроўкі.

Разнастайных турыстычных агенцтваў у свеце даволі шмат, але вельмі мала тых, якія вядуць сваю працу па-беларуску. У цяперашнім часе заняпаду беларускай мовы гэтую акалічнасць можна лічыць адной з канкурэнтных пераваг агенцтва, якое ёй актыўна карыстаецца хаця б у сусветным павуцінні. І адно з такіх агенцтваў — мінскі „Куфэрак падарожжаў", сайт якога месціцца па адрасе **http://kuferak.info**.

Нягледзячы на тое, што мэтай кожнага турыстычнага агенцтва, як і кожнай фірмы, з'яўляецца камерцыя, „Куфэрак падарожжаў" варты таго, каб засяродзіць на ім увагу менавіта з-за яго беларускасці. А яна на яго сайце праяўляецца паўсюль і ў неабмежаванай колькасці. Асабліва ўражвае адсутнасць якіх-кольвечы іншамоўных версій. Ствараецца неверагоднае ўражанне, што беларускамоўных людзей вакол гэтага агенцтва стала так многа, што іх замоў на падарожжы і іншыя паслугі хапае, каб весці бізнес. Тут застаецца толькі ўзрадавацца за заснавальнікаў і супрацоўнікаў данага таварыства з абмежаванай адказнасцю.

Сваімі прыярытэтнымі відамі дзейнасці ў „Куфэрку падарожжаў" называюць арганізацыю экскурсій з мэтай азнаямлення з унікальнымі помнікамі і культурнымі ландшафтамі былых земляў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, сустрэч з цікавымі людзьмі, новых знаёмстваў і незабыўных уражанняў. Па меншай меры так пазначана на старонцы „Пра нас".

Сярод прапанаваных кліентам бліжэйшых па часе падарожжаў у асноўным гарады Беларусі — Віцебск, Полацк, Гродна, Ліда. Праўда, ёсць і вандроўкі па іншых краінах — ва ўкраінскі Львоў, расійскі Пскоў. Таксама агенцтва прапануе так званыя карпаратыўныя падарожжы як па Беларусі, так і за яе межы.

Адной з цікавых рубрык сайта з'яўляецца „Галерэя". Нягледзячы на тое, што здымкаў там прадстаўлена не надта многа, але яны з розных месцаў Беларусі і ўсіх іх аб'ядноўвае адзін і той жа перыяд — 20-я гады мінулага стагоддзя. Разам з тым хацелася б пабачыць больш выяў, звязаных з дзейнасцю агенцтва, якую там вызначаюць як „правядзенне архіўна-бібліяграфічных вышуканняў у сферы гісторыі архітэктуры і горадабудаўніцтва".

Згодна інфармацыі пададзенай на старонцы „Дадатковыя паслугі", „Куфэрак падарожжаў" выпрацоўвае таксама „навукова-метадычныя абгрунтаванні па прыняццю праектных рашэнняў у дачыненні да рэстаўрацыі, рэканструкцыі і рэгенерацыі аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны, комплексных помнікаў горадабудаўніцтва і зон аховы гісторыка-культурных каштоўнасцей".

Адметна, што намеснікам дырэктара „Куфэрка падарожжаў" з'яўляецца старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч. Пра гэта, праўда, можна даведацца толькі з іншых сайтаў, бо ў „Кантактах" на сайце агенцтва даецца інфармацыя толькі пра адну асобу — яго дырэктара Юрыя Меляшкевіча.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

## Паўстанне за вольнасць Бацькаўшчыны

# 95 гадоў з часу Слуцкага паўстання



Слуцкі збройны чын — гэта збройная спроба абароны незалежнасці Беларусі на тэрыторыі гістарычнай Случчыны ў лістападзе і снежні 1920 года. Каля месяца беларускія вайсковыя аддзелы, сфармаваныя пераважна з мясцовых сялян, вялі баявыя дзеянні і стрымлівалі наступ савецкіх войскаў.

Асноўнай сілай Слуцкага збройнага чыну сталася сялянства, якое супраціўлялася савецкай палітыцы ваеннага камунізму і падтрымлівала ідэю незалежнасці Беларусі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года. Паўстанне ўзначалілі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі і шляхты. Слуцк быў важным рэгіянальным цэнтрам нацыянальнага руху.

У 1918 г. у горадзе быў утвораны Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам.

У час польска-савецкай вайны 1919-1920 гг. Случчына некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Нарэшце 11 кастрычніка 1920 г. горад апынуўся пад кантролем палякаў. Інфармацыя пра падзел Беларусі паміж Польшчай і бальшавікамі выклікала хвалю абурэння ў беларускім грамадстве. Непасрэдна пасля ўсталявання польскай улады ў горадзе аднаўляе сваю дзейнасць Беларускі Нацыянальны Камітэт. Ствараюцца аддзелы беларускай самаабароны і міліцэйскі корпус з 500 чалавек. Польскія вайскоўцы, якія рыхтаваліся да выхаду, не перашкаджалі стварэнню беларускіх аддзелаў. Многія з іх былі беларусамі і спачувалі самаабароне.

26 лістапада пачаліся баі паміж беларускімі і савецкімі войскамі. У наступныя дні адбыліся сутычкі перадавых чырвоных войскаў з асобнымі атрадамі Слуцкай брыгады. Слуцкая брыгада зрабіла некалькі ўдалых атак побач з вёскамі Капыль, Цімкавічы і Вызна. Супраць іх білася Омская дывізія бальшавікоў. Па ўсім стокіламетровым фронце бальшавікі адступілі. Ішлі баі ля вёсак Быстрыцы, Васільчыцы, Верабейчыцы, Дашкава, Васілішкі, Лютавічы, Мацкевічы, Садовічы, Морач. Некалькі вёсак былі вызвалены ад бальшавікоў. Да беларускіх аддзелаў далучалася ўсё больш людзей. Слуцкая Рада заклікала жаўнераў Чырвонай Арміі пераходзіць на беларускі бок. Многія так і зрабілі. Тады „чырвоныя" кінулі супраць беларусаў аддзелы з латышоў і кітайцаў.

4 снежня пачаўся новы наступ бальшавікоў. Беларускія аддзелы ўпарта абараняліся, але змушаныя былі пакінуць Вызну. Нястача зброі сталася прычынай паразы ў баі пад вёскай Ёдчыцы. Пад ціскам 7 снежня беларускія часткі пакінулі Семежава. Рада Случчыны і беларускі штаб былі перанесеныя ў Падчыцы, а пасля ў Грыцэвічы. Востра бракавала амуніцыі, харчавання, сярод паўстанцаў пачалася эпідэмія тыфу. Случчакі перайшлі да партызанскіх дзеянняў. Дзякуючы гэтаму 10 снежня былі вызвалены ад бальшавікоў вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, а потым Старынь. 13 снежня беларускія аддзелы адбілі ў бальшавікоў Семежава і захапілі вялікую колькасць амуніцыі, вызначыліся ваяры А. Курыловіча. Аднак праз два дні паўстанцы адступілі. 17 снежня Найвышэйшая Рада БНР прызначыла капітана Андрэя Якубецкага галоўнакамандуючым войскаў.

У канцы снежня стала ясна, што Беларускае войска больш не можа супрацьстаяць чырвонай навале. На нарадзе ў Баранавічах было прынята рашэнне пра спыненне ваенных дзеянняў і адводзе беларускіх аддзелаў на тэрыторыю, занятую палякамі. 28-31 снежня 1920 г. больш за 1500 беларускіх жаўнераў і афіцэраў перайшлі польска-савецкую мяжу і здаліся польскім уладам. Паўстанне скончылася. Лёс большасці яго ўдзельнікаў далей быў трагічным. Аднак паўстанне выразна засведчыла прагу беларусаў да незалежнасці.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Літаратурная вечарына ў Орлі



13 лістапада гэтага года групка паэтаў з Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) паехала на сустрэчу да любіцеляў паэзіі ў Орлю каля Бельска-Падляшскага. Літаратурную вечарыну арганізавалі дырэкаркі гмінных асяродкаў культуры ў Нараўцы (Галена-Марыёля Рээнт) і ў Орлі (Анна Нестэрук). Гэта першая такая сустрэча нараўчанскіх паэтаў на выездзе ў іншыя гміны ў Падляшскім ваяводстве.

Літаратурную вечарыну ў бібліятэчнай зале ў арлянскай школе адкрыў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк. Паслухаць і запісаць выступы паэтаў спецыяльна прыехала ў Орлю Анна Шайкоўская, радыёжурналістка Радыё Рацыя ў Беластоку.

Свае найлепшыя вершы чыталі Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў, Вера Радзіванюк і Аляксандр Радзіванюк (сын Веры) з Міхнаўкі, Галіна Бірыцкая з Плянты ды Янка і Кастусь Целушэцкія (браты) з Новага Ляўкова. Вершы спадабаліся ўсім прысутным і яны ўспрымалі іх воплескамі. Прысутныя задавалі літаратарам пытанні, між іншым, калі найлепшы момант для гэтага, каб напісаць верш і які патрэбны штуршок, ці трэба нешта перажываць ды калі прыходзіць тое натхненне.

Сярод слухачоў былі вялікія любіцелі паэзіі. Яны прадэкламавалі свае любімыя вершы, у тым ліку вершы паэтаў з Арлянскай гміны, між іншым, Віктара Шведа і Уладзіміра Сасны. Сустрэча прайшла ў прыемнай і сардэчнай атмасферы. Падчас перапынку быў салодкі пачастунак, кава і гарбата. Вера Радзіванюк падпісвала свой зборнік вершаў „Бабіна лета”, які выйшаў з друку ў верасні гэтага года. Адзін яго экземпляр аўтарка перадала ў школьную бібліятэку. Дырэктарка ГАК Галена-Марыёля Рээнт запрасіла арлянскіх паэтаў на сустрэчу ў Нараўку.

На заканчэнне сустрэчы нараўчанскія паэты атрымалі ад дырэктаркі ГАК у Орлі сувеніры ды прыгожы альманах пад загалоўкам „Літаратурныя вечарыны” (у ім вершы васьмі паэтаў з Арлянскай гміны, між іншым, Андрэя Грайко, Юркі Баены, Зосі Сачко, Іаланты Бэзюк, Уладзіміра Сасны, Віктара Шведа і Зоі Майстровіч).

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# На Міхайла ў Старым Ляўкове

Кожны год 21 лістапада ў Старалляўкоўскім прыходзе жыхары святкуюць дзень св. архістраціга Міхаіла. У гэтым прыходзе гэта вялікае асенняе свята. Летам у Ляўкоўскай парафіі адным з такіх большых прыхадскіх святаў з'яўляецца дзень свсв. Пятра і Паўла.

Сёлета ў царкву святых Пятра і Паўла ў Старым Ляўкове прыехала дзесяць святароў з розных прыходаў, між іншым, Гайнаўскага, Дубінскага, Міхалоўскага, Ласінскага Нараўчанскага і Новаберазоўскага. Усе яны ўдзельнічалі ў багаслужбе і хрэсным ходзе. Святары і хор прыгожа спявалі. На Міхайла ў храм прыйшло многа вернікаў. Было вельмі ўрачыста. Гарэла многа свечак. Свята на Міхайла радаснае. Яно апошняе перад Раждаством Хрыстовым.

На свята да сваіх бацькоў прыехалі на аўтамабілях іх дарослыя дзеці са сваімі сем'ямі, якія жывуць у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы і ў другіх гарадах. Пастаянныя жыхары Старалляўкоўскага прыхода штогод запрашаюць да сябе ў госці сваякоў ды знаёмых з суседніх парафій.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# З мінулага пошты ў Чаромсе



У Гмінным цэнтры інфармацыі працуе Адам Вілюк. Гэта вопытны інфарматык і своеасаблівы фанат даўнейшай Чаромхі. Цікавіцца старымі дакументамі, фотаздымкамі, рэдкія экземпляры прэзентуе на сайце Чаромхаўскай гміны ў рубрыцы „Галерэя”. Вось хоць бы гэтая фатаграфія з 1949 года, на якой зняты працаўнікі чаромхаўскай пошты. Стаяць (злева направа): начальнік пошты Сцяпан Мароз, падавец пошты, вазак Васілюк, пісьманосцы Іван Назарук з Вулькі-Тэрахоўскай і Юлік Шатыловіч з вёскі Чаромхі, НН; спераду сядзяць: Аляксандар Дубковіч і Міхась Унучка. Здымак Вілюку перадаў Дзмітры Шатыловіч з вёскі Чаромхі.

Раней пошта змяшчалася ў прыватнай кватэры насупраць пачатковай школы па вуліцы Школьнай. Кузаву абслугоўваў Юлік Шатыловіч, а Вульку-Тэрахоўскую — Іван Назарук (Арцёмавіч яго клікалі). Тады паштовыя пасылкі з напрамку Беластока паступалі чыгуначным транспартам у адмысловым вагоне з надпісам „Пошта”. У паштовую скрыню гэтага вагона можна было ўкідаць лісты, адрасаваныя ў кірунку Седльцаў і Варшавы. З Гайнаўкі пошту на цягніку падвозіў вызначаны працаўнік Раённага аддзялення. Яму можна было перадаць ліст у Гайнаўку. Са станцыі ў Чаромсе забіраў пасылкі вазак Васілюк. Штодзень пад'язджаў ён на фурманцы сівой кабылкай. Калі ў 1989 годзе новы чыгуначны вакзал здалі ў карыстанне, дык паштовае аддзяленне перамясцілі на чыгуначную станцыю. Вось такая гісторыя пошты і здымка.

Уладзімір СІДАРУК

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. оперная песня = 8 _ 7 _ 4 _ 5 _;
2. складны паўкруг для абмахвання ў спёку = 16 _ 12 _ 26 _ 13 _;
3. порт на захадзе Іспаніі = 24 _ 10 _ 6 _ 14 _;
4. свінскі нос = 30 _ 33 _ 32 _;
5. паўднёваамерыканскі стэп = 29 _ 25 _ 20 _ 11 _ 21 _;
6. колішняя сельскагаспадарчая прылада для ворыва = 23 _ 22 _ 9 _ 17 _;
7. вострая інфекцыйная хвароба, „чорная смерць” = 1 _ 2 _ 34 _ 35 _;
8. лясная пеўчая птушка з... гміннай мясцовасці, што між Нарвай і Орляй = 18 _ 19 _ 3 _;
9. перамяшчэнне на колах = 31 _ 27 _ 15 _ 28 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Цар, голад, Супрасль, пляма, форт, гімнастыка, чай, холад, вёска, самурай.

Рашэнне: **Сам пад фігурай, а чорт пад скурай.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 06.12 — 12.12

**(22.03. — 20.04.)** Да 8.12. паспееш зрабіць усё, што вырашыш. Акалічнасці і людзі будуць табе вельмі спрыяць, без цяжкасцей даб'ешся ўсяго. 11-12.12. добры час на падарожжы, дапамогу іншым, рэвізію сваіх поглядаў. 9-12.12. магчымыя кантужанні, будзь вельмі асцярожны.

**(21.04. — 21.05.)** Карыстайся нагодамі, будзь адкрыты да людзей. Маеш шанцы на каханне. У пачуццях захапленне і гармонія. У сям'і і кампаніі сустрэчы. Для здароўя прымяні візуалізацыі, які ты здаровы і моцны. На працы пазбегнеш канфліктаў. 9-13.12. уланская фантазія і добрая інтуіцыя. Лёгка адчуеш іншых. У час прыкмеціш нагоды, якія варта выкарыстаць.

**(22.05. — 22.06.)** Папрацуй над падмацаваннем сувязі з партнёрам — гэта табе прынясе выгаду. У пачуццях новыя захапленні. У сям'і перш за ўсё гармонія, хаця 9-13.12. магчымыя спрэчкі. Працы больш, але з 10.12. будзеш вельмі добрым арганізатарам. Падмацоўвай свой імунітэт, асабліва 11.12. не натужвайся, больш адпачывай.

**(23.06. — 23.07.)** Заўсёды стаў на сваім, не вельмі разлічвай на меркаванні іншых. У пачуццях і сувязях усё дакладна абдумай. У кампаніі і сям'і знайдзі больш часу для сябе. У здароўі не перанатужвайся, хаця будзе лепш. 11.12. можа да цябе раптам дарвацца нейкая нямогласць. На працы разглядайся за дадатковым заробкам. 9-14.12. на рабоце турботы ад канкурэнцыі і зайздросных калег.

**(24.07. — 23.08.)** 7-11.12. будзеш вельмі творчы, гатовы розныя справы кінуць у небылое, пачаць новае жыццё. Але 7-11.12. можа пачаць шванкаваць тваё здароўе — можа быць нейкая інфекцыя або недагляд пасля хваробы (6-8.12. старайся варушыцца, дыхай свежым паветрам). У пачуццях нагоды для флірту. Сярод сям'і і сяброў будзь больш гнуткім. Да працы прыкладвайся, будзеш упарты і трывалы — дасягнеш большага.

**(24.08. — 23.09.)** Не давай абяцанняў навырост, не бярыся за дамовы, якіх не зможаш выканаць. 9-13.12. — найлепшы час на мілыя сустрэчы. Блізкія стануць за табою мурам. Урэшце не будзеш пераборшчваць з дбаннем пра здароўе, можаш папусціць папругу для прыемнасцей (але не пі шкоднага шклянкамі!). Будзеш мець нос для інтарэсаў, паявяцца таксама фантастычныя нагоды для паказання сваіх умеласцей (увесь снежань!).

**(24.09. — 23.10.)** Чакаюць цябе змены ў пары. Змагайся за сваё каханне! Захутка не інвестуй у пачуцці. Новыя кантакты. Спакойна можаш ісці на запланаваныя аперацыі (7-11.12. і 12-16.12.). 9-13.12. будзеш мець вялікую інтуіцыю і цудоўнае адчуванне сітуацыі. Усе справы складуцца лёгка. Твае рашэнні будуць трапныя.

**(24.10. — 22.11.)** Не ганіся за каханнем, зрабі для яго месца ў сваім сэрцы, тады хутка яно да цябе прыйдзе. 9-14.12. будзеш выдатным кіраўніком, усё зашпіліш на апошні гузічак. Але 5-8.12. цяжка будзе табе запанаваць над злосцю, з-за сваіх фрустрацый не абвінавачвай іншых. Мала часу ў снежні будзеш мець для сяброў. Невычэрпная энергія, перакінь яе на спорт, павысільвайся. На рахунку паправа, зловіш пару добраплатных халтур да 10.12.

**(23.11. — 22.12.)** Шукаеш кахання? Тут хіба не вельмі зменіцца — у пары будзе халаднавата і жорстка. Калі ты адзін, і так будзеш карыстацца папулярнасцю, чароўны і ў добрым настроі; не ўключыся ў нядобры флірт. Будзе цябе цягнуць да людзей радасных і творчых. Можаш скончыць нейкую нецікавую ўжо для цябе рэляцыю. Не трактуй свайго дому як гасцініцы. На працы будзе ісці як на грудзе, перашкоды могуць не даць зрэалізаваць чагосьці важнага, але паможа табе хтосьці спрыяючы.

**(23.12. — 20.01.)** Добры час у пастаянных парах. Будзеш там, дзе быць павінен. 10.12. праверышся як дарадчык і задумшчык. Веды самі будуць уваходзіць у тваю галаву. Ясная ацэнка сітуацыі дазволіць табе на разумныя рашэнні. На працы не ўсё па тваёй думцы, спаборніцтва, а не супрацоўніцтва. Пільнуйся, каб не патаўсцець.

**(21.01. — 19.02.)** 7-11.12. знакаміты час на інвестыцыі, падпісванне дамоў, наладжванне кантактаў, удачы ў інтарэсах і ў падарожжы. Але 9-13.12. захавай халодную кроў, прытрапіцца хтосьці нахабны і дакучлівы. У пачуццях рамантычна і ўзвышана, перад табою новы раздзел у каханні.

**(20.02. — 21.03.)** У адносінах не будзь упарты, каб твае высновы не былі неабдуманыя, бо пашкадуеш. 9-13.12. цудоўныя нагоды, каб добра падзарабіць. Шчасце ўсміхнецца да цябе, пазбудзешся комплексаў, немалыя ўдачы ў фінансах. Але не раскідвайся грашыма. Пільнуй здароўя — высыпайся, цёпла апранайся, глытай вітамін С, сок з чорнай бузіны, купайся з араматнымі алеямі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (24)



Свяшчэннік гэта не прафесія, — кажа бацюшка Алег Іванавіч Парыпа, — свяшчэннік гэта служба. Штодзённая, шэрая праца. Гэта тое, калі ты надзяваеш будзённыя апранахі і астаешся на месцы са сваімі хлопцамі. З тымі хлопцамі, якія заўтра цябе не пакінуць, а будуць стаяць як адзін муж, побач. А тыя, што наязджаюць царкву ад свята, яны ёсць і быццам іх няма...

Словы бацюшкі прагучалі як візітная картачка. Адразу было вядома, што ён са сваімі парафіянамі жыве па-новаму, інакш, чым іншыя святары ў наваколлі.

Айцец Алег найбольшым поспехам лічыў тое, што ён пратрымаўся на парафіі ўжо дванаццаты год. Астаўся жыць у Перабродах, каб разам з прыхаджанамі дзяліць іх лёс. Да яго ніхто не хацеў запусціць тут даўжэй каранёў. Святары прыязджалі і ад'язджалі. З-за гэтага царква нішчэла не толькі ў пераносным сэнсе:

— Калі я прыйшоў у Пераброды, то тут на літургіі стаялі мае бацькі і яшчэ дзве бабулькі. А зараз кожную нядзелю да прычасця бацькі падносяць пяцьдзясят грудных дзіцёнкаў.

— Паўсотні немаўлят, кажаце? — апошняя вестка ўражвала. — Гэта, здарова!

— У мяне самога ўжо чацвёра дзяцей, — адзначыў з усмешкай бацюшка. І дадаў: — Мы першыя ў Дубровіцкім раёне па ліку нараджэнняў...

Звычайная палеская сям'я складаецца з трох пакаленняў. Людзі дбаюць, каб у сям'і нажыць не менш чым пяцёра дзяцей. З-за гэтага мясціны не згубілі імпэту, вітальнасці і здаровага спаборніцтва. Апошняя справа датычыць не толькі багацця, але і колькасці дзяцей. Як не цікава, канкурэнцыя на лік дзяцей праходзіць па лініі веравызнання. Пакуль у мясціне рэй вядуць пратэстанты-пяцідзясятнікі. Там сем-дзесяць дзяцей не рэдкасць, а сам рэкардсмен мае ўжо пятнаццатку:

— І там ажно дзесяць сыноў, — адзначае з непрыхаваным прызнаннем бацюшка.

* * *

У перабродскую царкву патрапіла я невыпадкова. Звычайна пры такіх месцах гуртуецца музычная эліта прыхода. Спявачка Надзея Яўсовіч не належала да хору. Сваё рашэнне тлумачыла навалай хатніх заняткаў.

Сам свяшчэннік не быў асабліва зацікаўлены народнымі традыцыямі, прозвішча спявачкі гучала яму незнаёма. Ды і сам выгляд царквы падказваў, што этнаграфія тут выйшла ўжо з моды...

Айца Алега сустрэлі мы ля царквы, у рабочых апранахах. Разам з мясцовымі хлопцамі рамантаваў бетонную агароджу. Спачатку немагчыма было яго адрозніць ад іншых работнікаў. Мы, як прыезджыя, у вачах гэтай дзелавой талакі не выклікалі цікавасці. Яны калупаліся пры агароджы, дэманструючы звышсянятасць і халодную дыстанцыю. На шчасце спрацавала слава майго прыгоднага гіда і апекуна. Юры назваў сваё прозвішча і раптам усё адмянілася. Бацюшка адразу кінуў работу, абцёр запэцканыя пяском рукі аб штаны і запрасіў у сярэдзіну царквы.

— Спяшаемся, каб сёння закончыць работу, — патлумачыў, быццам у апраўданне, святар. — Тыя хлопцы, што мне дапамагаюць, працуюць дарма...

Папраўдзе знешні выгляд царквы збіў мяне з панталыку. Замест драўлянай, размалянай у характэрны для Палесся блакітны колер царквы (так яна выглядала на архіўных здымках), я пабачыла нешта родам з беларускай глыбінкі. Драўляны будынак быў памаляваны ў колер марской зелені, яго завяршаў цёмна-зялёны бляшаны дах, прыаздоблены купалам з залатой бляхі і такімі ж крыжамі. Колерную кампазіцыю папаўняў бетонны, дэкаратыўны плот, размаляваны ў ядавіта-смарагдавы колер. Тры віды зелені кусаліся з сабой і навакольнай архітэктурай, вернай натуральным колерам драўніны. Гэтая «мадэрнізацыя» канчаткова адабрала ахвоту пытаць пра палескія напевы.

* * *

З другога боку пазітыўна здзіўляла, што царкву адбудавалі на традыцыйны лад, на ўзор папярэдняй, якая існавала ўжо толькі ва ўспамінах людзей. У Перабродах доўгі час абыходзіліся без багаслужбаў і рэлігійных паслуг. Царкву разбурылі ў сямідзясятыя гады ХХ стагоддзя — у час, калі жыхары перасталі галадаць і памалу ставалі на ногі, абжываліся.

Перабродцы аднак ніколі не змірыліся з патратай царквы. У гісторыі прыхода залатымі літарамі запісалася асоба Параскевы Шыманскай. Жанчына ўзяла на сваю галаву абавязак адраджэння рэлігійнага жыцця. Доўгія гады яна хадзіла ад хаты да хаты, ад сяла да сяла, ездзіла па ўсіх *одпустах* ды збірала сродкі на адбудову царквы. Яе ангажаванасць была настолькі руплівай і пранікнёнай, што яе ўспамагалі атэісты і пратэстанты. Задума простай сялянкі стала целам. У 1993 годзе ў Перабродах асвяцілі новую царкву.

— У нас, сярод святых, найбольш *пачытаюць* Параскеву Сербскую, — кажа бацюшка. Гэта не толькі палеская традыцыя, гэта такі ўклон у бок нашай бабы Параскевы...

Бацюшка запрасіў нас у сярэдзіну царквы з цёплым, задбаным інтэр'ерам. Рамонт правялі за кошт прыватных спонсараў, якія з'явіліся нечакана напярэдадні *Руздва*, — так у Перабродах называюць Каляды.

— Мы не хацелі дапамогі палітыкаў, — кажа бацюшка. — Тыя заўсёды перад выбарамі прапанавалі фінансавую дапамогу. Прыняць іх грошы, значыць, прыняць іх прапановы. А людзі не хочуць нічога мяняць...

У перакладзе на простую мову гэта значыла, каб з насцярожанасцю глядзець на прыгодных дабрачынцаў. У іх асобах часта былі прыхаваныя прыхільнікі Кіеўскага патрыярхату, а палеская глыбінка, у сваёй масе, прыналежыць Маскоўскаму патрыярхату.

— Нас падтрымалі свае людзі, — кажа бацюшка, — яны выклалі грошы на фрэскі ды нічога ўзамен не патрабавалі...

Айцец Алег паказаў новы дубовы, разны прастол і сказаў з гонарам:

— Такога прыгожага нідзе няма!

Мяне ўзрушыла Ікона Пачаеўскай Божай Маці ў агні і абраз вандруючага Ісуса з народам, у залочаных нівах жыта. Абраз у сацрэалістычным стылі быў пачэплены на задняй сцяне.





Злева: Юры Лукашэвіч і бацюшка Алег Парыпа

* * *

Яшчэ ў дарозе ў Пераброды я пачула жахлівую гісторыю разбурэння царквы. Юры Лукашэвіч быў сведкам здарэння. Яно запамяталася яму яшчэ з-за асабістай крыўды. Яго дзед па лініі бацькі з'ехаў разам з Карлам Радзівілам пасля вайны ў Нямеччыну. Другі дзед, па лініі маці, разам з чырвонай арміяй дайшоў да Берліна. Як ветэран айчыннай вайны меў надта высокую пазіцыю сярод вясковай іерархіі. Людзі ішлі да яго за радай і дапамогай. Калі прыйшла вестка, што будуць ліквідаваць царкву, у сяле запанаваў шок. Людзі плакалі, аднак не ведалі як супрацьставіцца.

— Нас таксама прызвалі са школы, — успамінае Юры, — каб сабе паглядзелі...

Магчыма, з той пары ён зненавідзеў *мянтоў*, гэтай клічкай называў палітычную міліцыю, сексотаў і іншых ахоўнікаў парадку.

— Гэтая карціна як сёння стаіць перад вачыма, — пачаў Юры. — Тады ля царквы сабраліся ўсе людзі. Нас, дзяцей, спецыяльна адпусцілі з урокаў. Перад тым як узарвалі будынак царквы, *мянты* прачыталі аб'яву. Яны гаварылі, што час пакончыць з папамі і цемрашальствам. І мой дзед, як адзіны, выступіў з напалоханага насмерць натоўпу і парасіў энкавэдзістаў:

— Хлопцы, што вы робіце! Пакіньце гэта! Не трэба разбураць гэтай царкоўкі, гэта ж культурны помнік...

У адказ на прашэнне ветэрана вайны прапаведнікі атэізму адрэагавалі агрэсіяй:

— Адзін мент падышоў да майго дзеда і ўдарыў яго ў твар, — успамінае Юры. — Мяне гэта забалела так, быццам гэты ўдар быў накіраваны не ў майго дзеда, а ў мяне самога. Ніколі гэтага не забуду...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960